# ПАГОНЯ

Чацвер
22 чэрвеня 2000 г.
№ 22 (469)
Кошт 70 рублёў


## Адновім Фару Вітаўта, зберажэм Каложу!

**Напрыканцы красавіка Юбілейнага 2000 года ў Гродне была створана ініцыятыўная група па аднаўленні славутага помніка архітэктуры XIV-XVI стагоддзяў, першага каталіцкага храма ў Гродне - Фары Вітаўта. У траўні прадстаўнікі групы звярталіся да ўладаў Гарадзенскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі і атрымалі ад іх ухваленне гэтай ініцыятывы.**

Вядома, што менавіта ў Гродне былі збудаваныя два хрысціянскія храмы з ліку найстарэйшых у Беларусі: Барысаглебская праваслаўная царква (Каложа) XII ст. і рыма-каталіцкі касцёл Успення Маці Божай XIV ст., пазней больш вядомы як Фара Вітаўта. У далейшым Фару неадназразова перабудоўвалі, а ў 1961 годзе ў мэтах «паляпшэння планіроўкі цэнтру горада» ўзарвалі. Дзве гэтыя святыні дакладна перадаюць адметнасць гісторыі рэлігійнага жыцця беларускага народа, а менавіта: існаванне ў беларускага народа дзвюх аўтахтонных (традыцыйных) канфесіяў - праваслаўя і каталіцтва.

Заклікаем людзей добрай волі аб'яднаць намаганні па захаванні Каложы і аднаўленні Фары Вітаўта.

**Ул. Інф.**

**Адрас для кантактаў з ініцыятыўнай групай: 230023, г.Гродна, а/с 117**

## Выпускнік - гэта гучыць годна?

**У нядзелю, 18 чэрвеня, у гарадскім Палацы культуры юнацтва адбылася канферэнцыя на тэму «Рынак працы для выпускнікоў навучальных установаў». Арганізатарамі яе выступілі гарадзенскія арганізацыя Беларускага Незалежнага прафсаюза і Свабоднага Прафсаюза Беларускага.**

На думку арганізатараў канферэнцыі, «на сёньняшні дзень у гарадзенскім рэгіёне не створаныя ўмовы для прафесійнай самарэалізацыі моладзі». Дзяржаўныя структуры, якія павінны займацца працаўладкаваннем моладзі, не маюць доўгатэрміновых праграмаў па вырашэнні гэтай праблемы.

Да ўдзелу ў канферэнцыі былі запрошаныя адпаведныя дзяржаўныя ўстановы і структуры. Сярод іх - упраўленне адукацыі гарадзенскага гарвыканкама, аддзел працы і занятасці гарвыканкама, Цэнтр прафарыентацыі моладзі. Аднак усе яны адмовіліся ўдзельнічаць у абмеркаванні праблемаў працаўладкавання выпускнікоў навучальных установаў.

У распаўсюджанай заяве ўдзельнікі канферэнцыі лічаць за неабходнае «пашырыць на Гарадзеншчыне сеткі службы прафесійнай арыентацыі моладзі, змяніць падыходы да набору ў ВНУ, ПТВ, тэхнікумы».

**Ул. Інф.**

## У Літву з самагонкаю

**Кантрабанду, якая нячаста сустракаецца, выявілі днямі на беларуска-літоўскай мяжы памежнікі Смаргонскага атрада.**

Як паведамілі ў прэс-службе Дзяржаўнага камітэта памежных войскаў рэспублікі, трывожная група затрымала мясцовага жыхара, які на сваёй фурманцы спрабаваў вывезці ў Літву 58 літраў самагону.

Кантрабандыст затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання Смаргонскага атрада.

**Вячаслаў Будкевіч**




**23, 24 чэрвеня** - пераменная воблачнасць, месцамі - ападкі, навальніцы, вецер слабы, няўстойлівы. Тэмпература паветра 23 чэрвеня - уначы +10...+15, удзень +22...+27; 24 чэрвеня - уначы +12...+16, удзень +22...+28.

# Не забівайце нас, людзі!

**«Мы хочам жыць, таксама, як і вы! Не забівайце нас, людзі!» - жаласна просяць сабака і кот з плакату. «Вазьмі мяне да сябе! Я буду любіць цябе!» - плача кацяня і выцірае лапкай сьлёзкі. «Патрабуем неадкладна спыніць забойствы жывёлаў!» - з такімі плакатамі ў мінулы чацьвер выйшла група людзей на пікет супраць жорсткага стаўленьня да жывёлаў.**



Малюнак Алеся Ступеня

Пра бязлітасныя, садыцкія забойствы жывёлаў, якія выконваюцца супрацоўнікамі ДЭП і ЖЭСаў па загаду ўладаў, неадназразова распавядалася ў мясцовым друку. Я ня буду пераказваць гэтыя жудасныя факты, ад якіх стыне кроў і ня хочацца жыць, бо адчуваеш сваё бясьсільле выратаваць няшчасных, безабаронных жывёлаў. Адзінай вядомай мне рэакцыяй уладаў на гэтыя публікацыі была такая: да людзей, якія жывуць на Гожынскім сьметніку, прыязджаў міліцыянт і строга папярэдзіў, каб нікому не расказвалі пра тое, што яны вельмі часта, рэгулярна там бачаць, маўляў, «иначе будет плохо».

На пікеце ад людзей я наслухалася такога страшнага, якое можна ўбачыць толькі ў фільмах жахаў. Кожны дзень па горадзе ездзіць страшная зялёная машына і супрацоўнікі ДЭП ловяць і забіваюць безабаронных жывёлаў. Некалькі дзён таму на прашпэкце Касманаўтаў проста перад пад'ездам дому стралялі ў сабаку, і параненага, але жывога закінулі ў кузаў машыны. На жанчыну, якая выбегла бараніць яго, забойцы нават не зьвярнулі ўвагі. Гэтага сабаку любіў і карміў увесь двор...

Садыцкія забойствы супрацоўнікі санэпідэмстанцыі і ДЭП называюць «усыплением». Нехта некалі прыдумаў гэты тэрмін у дачыненьні да забойства, якое ажыцьцяўляецца шляхам ін'екцыі. Гэта блюзьнерства, забойства трэба называць забойствам, бо сьпяць жывыя, а ня мёртвыя. Што ж казаць пра «усыпление» каламі па галаве і ўдарам аб сьцяну!

Санэпідэмстанцыя дае ЖЭСам «план» па адлоўленых катах. За невыкананьне «плану» пазбаўляюць прэміі. Для таго, каб злавіць катоў, выкарыстоўваюць нават пасткі, якія калечаць жывёлаў, адцінаюць ім лапы. Потым (мо нават не ў той дзень) іх «усыпляют» тыя самыя забойцы жывёлаў з ДЭП. Ня ведаю, як называецца іхная «прафэсыя» ў ведамасьцях на атрыманьне заробку, але ад гэтага яны не пакідаюць быць забойцамі. ДЭП і ЖЭСы за грошы прымаюць катоў і сабакаў. Здаюць жывёлаў і дзеці. Што яны купляюць за грошы, зробленыя цаною жыцьця маленькай, безабароннай жывёлы - цукеркі, гарэлку, квіток у кіно?

На пікеце пазнаёмілася зь некалькімі жанчынамі, якія на свае мізэрныя пэнсіі й заробкі кормяць бяздомных кошак і сабакаў каля сваіх дамоў і нават ездзяць дзеля гэтага да знаёмых кошак у іншы раён гораду. Пра адну з гэтых добрых, міласэрных жанчынаў па Гарадзенскім тэлебачаньні паказалі рэпартаж. Рэакцыя санэпідэмстанцыі ці ЖЭСу была хуткай - вылавілі ўсіх катоў. Журналіст мімаволі «заклаў» іх...

Другая жанчына расказала, як тэлефанавала галоўнаму доктару санэпідэмстанцыі, задала яму пытаньне: «Ці будуць і далей трапляць у страшныя ямы на Гожынскім сьметніку жывыя жывёлы?» Пасьля кароткай паўзы прагучала: «Будуць». Гэты чалавек, мусіць, мае медычную адукацыю. Я дагэтуль думала, што медыкі займаюцца ратаваньнем жыцьця, а не аддаюць загады катаваць перад сьмерцю.

Нядаўна на БЛК каля рынку машына наехала на сабаку, які спаў. Сабака не адразу, пакутліва сканаў. Таму, хто сядзеў за стырном, нават не прыйшло ў галаву, што гэты сабака - жывая істота. Ляжыць там, дзе я хачу праехаць, - я праеду проста па ім. Страшна, што так думаюць і робяць многія. Падобных жахлівых выпадкаў можна расказаць сотні.

Савецкім людзям на працягу дзесяцігодзьдзяў убівалі ў галовы лёзунгі эпохі пабудовы камунізму: «Человек - царь природы», «Всё для человека, всё во имя человека» (не буду казаць пра тое, як выконваліся гэтыя лёзунгі - гэта добра вядома). Мяне зь дзяцінства абурала - чаму толькі для чалавека? Хіба Бог не стварыў разам з чалавекам іншыя жывыя істоты, хіба яны ня хочуць жыць таксама, як і мы?! Жыцьцё - найважнейшая каштоўнасьць у сьвеце, незалежна ад таго, чыё гэтае жыцьцё - чалавека, каня, зайца, кошкі, жабы.

Пераважная большасьць людзей, якія падыходзілі да пікетоўшчыкаў - добрыя, міласэрныя людзі, і гэта дае надзею, што разам мы здолеем нешта зьмяніць. Я заўважыла толькі трох злосных, якія ня любяць жывёлаў. Адзін з гэтых людзей (хаця не хацелася б называць іх людзьмі, гэтыя істоты належаць да іншага, больш прымітыўнага, біялагічнага віду) лямантаваў: «Собаки кусают детей!». Не дражніла б тое дзіця сабаку, ніхто б яго не пакусаў. Другая крычала: «Собак и котов развелось слишком много, они разносят заразу и поэтому их надо убивать». А хіба мала хворых людзей, якія таксама разносяць заразу? Дык, можа, іх таксама каламі па галаве і ў калодзежы на Гожынскі сьметнік, каб не заміналі жыць нам, здаровым?! Нацысцкая ідэалёгія ў дачыненьні да жывёлаў, якая існуе ў нашым грамадзтве, можа ў хуткім часе перанесьціся й на людзей.

У Гародні жыве чалавек, Юры Аўчыньнікаў, у якога баліць душа за бадзяжных катоў й сабак больш, чым у многіх з нас. Ён мае праграму развязаньня балючай праблемы бяздомных жывёлаў, мае прыхільнікаў. Гэты чалавек цэлы год абівае парогі гарвыканкаму, каб зарэгістраваць арганізацыю, якая будзе займацца абаронай жывёлаў. Старшыня гарвыканкаму А.Пашкевіч абяцаў яму, што будзе ўсяляк дапамагаць, бо арганізацыя будзе займацца такой неабходнай гуманнай працай. І што ж? Як кажуць у народзе, «абяцанка-цацанка, а дурню радасьць».

Віна за забойствы жывёлаў ляжыць ня толькі на двух непасрэдных выканаўцах. Вінаватыя дворнікі й іншыя, хто вылаўлівае жывёлаў і здае іх на пакутлівую сьмерць, вінаватыя начальнік ДЭПу Э.Веккер і кіраўніцтва ЖЭСаў, якія загадваюць ім гэта рабіць, вінаватыя супрацоўнікі санэпідэмстанцыі, якія загадваюць ЖЭСам пазбаўляць жывёлаў жыцьця. Вінаватыя мы ўсе, бо здагадваліся й ведалі, што сабакаў і катоў нехта забівае, ведалі й маўчалі. Але найвялікшы грэх ляжыць на кіраўнікох гораду, якія маюць уладу, каб спыніць забойствы безабаронных жывёлаў, але ня робяць гэтага. Людзі, апамятайцеся, што вы робіце?! Хто даў вам, людзям, права вырашаць: каму пакінуць жыцьцё, дадзенае Богам, а ў каго - адабраць? Заклікаю вас - адмаўляйцеся выконваць бязбожныя, нялюдзкія загады, ня бойцеся! Вы адчуеце, якое гэта шчасьце - выратаваць некага ад сьмерці.

На пікеце зьбіраліся подпісы пад лістом да старшыні гарвыканкаму А.Пашкевіча, за 2 гадзіны падпісаліся больш за 300 чалавек. Зьвяртаюся да ўсіх чытачоў ПАГОНІ. Няхай кожны, хто адчувае боль і сорам за тое, што ў нашым горадзе робяць з жывёламі, якія ў нармальнай краіне зьяўляюцца найлепшымі сябрамі чалавека, паставіць свой подпіс пад гэтым лістом. Падпішыцеся самі, дайце падпісаць сваім родным, сябрам, суседзям, калегам па працы і дашліце на адрас рэдакцыі. Няўжо ўлады не прыслухаюцца да нашых патрабаваньняў?

**Тацяна Капылова**

## Казка збіраецца на вакацыі

**25 чэрвеня Гарадзенскі абласны тэатр лялек закрывае свой чарговы сезон прэм'ерным прадстаўленнем «Казкі лялечніка-бадзягі».**

Новы спектакль паставіў заслужаны артыст Украіны - вядомы рэжысёр з Кіева Сяргей Яфрэмаў. А сцэнаграфію стварыў галоўны мастак Дзяржаўнага тэатра лялек з Менска Валерый Рачкоўскі. У ролі лялечніка, які вандруе па розных мясцінах, каб апавядаць і паказваць дзецям забаўныя гісторыі, выступіць Юрый Буракоў. Разам з ім у спектаклі граюць Галіна Закрэўская і Тамара Лабар.

Пасля афіцыйнага закрыцця сезону гарадзенскія лялечнікі яшчэ да сярэдзіны ліпеня будуць наведваць дзіцячыя летнікі з традыцыйнай тэатралізаванай гульнёва-забаўляльнай праграмай. А пасля Яе Вялікасць Казка адпраўляецца на вакацыі, каб сустрэцца са сваімі прыхільнікамі ўжо ў верасні - у новым юбілейным дваццатым сезоне.

## Свіцязь стане вадаёмам

**Кіраўніцтва Беларускай чыгункі наважана выкарыстаць возера Свіцязь у якасці рыбагаспадарчага вадаёма. У планах новага гаспадара - зрабіць возера месцам адпачынку для рыбаловаў-аматараў. Праўда, за рыбалку давядзецца плаціць. Дзяржкамітэтам рыбаахоны ўжо выдадзена ліцэнзія на эксплуатацыю вадаёма.**

З просьбай перадаць возера як рыбагаспадарчы вадаём кіраўніцтва Беларускай чыгункі звярнулася ў Навагрудскую раённую інспекцыю прыродных рэсурсаў. Улічваючы, што возера Свіцязь знаходзіцца на тэрыторыі заказніка, раённая інспекцыя, у сваю чаргу, звярнулася ў Мінпрыроды, якое палічыла за неабходнае ацаніць стан возера і толькі пасля гэтага вызначыць рэжым ягонай аховы і выкарыстання. Працы па даследаванню возера будуць выкананы вучонымі лабараторыі возеразнаўства Белдзяржуніверсітэта. Яны дадуць сваё заключэнне і рэкамендацыі. Толькі пасля гэтага з улікам рэжыму яго ўтрымання як Свіцязянскага ландшафтнага заказніка і ўвядзення пэўных абмежаванняў стане магчымай далейшая эксплуатацыя возера.

## Земляробства на мяжы стагоддзяў

**16 чэрвеня ў Шчучыне прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя на тэму «Адаптыўная інтэнсіфікацыя земляробства на мяжы стагоддзяў». Яна была прымеркавана да 90-гадовага юбілея Гарадзенскага занальнага навукова-даследчага інстытута сельскай гаспадаркі. Удзельнікі наведалі вопытнае поле, дзе былі прадэманстраваны пасевы і зроблены тэматычныя паведамленні па пытаннях рэгіянальнага насенняводства і гатунковай агратэхнікі сельскагаспадарчых культур.**

Гісторыя інстытута бярэ свой пачатак ад Віленскай батанічнай сельскагаспадарчай даследчай станцыі, арганізаванай у вёсцы Беняконі Воранаўскага раёна. У 1959 годзе станцыя была пераведзена ў Шчучын, дзе атрымала больш магутную эксперыментальную базу ў зоне, якая найбольш поўна адлюстроўвае прыродна-кліматычныя ўмовы заходняга рэгіёна Беларусі. У 1990 годзе пастановай Савета Міністраў Беларусі на базе Гарадзенскай абласной сельскагаспадарчай даследчай станцыі быў арганізаваны Гарадзенскі занальны навукова-даследчы інстытут сельскай гаспадаркі.

Толькі за апошнія гады супрацоўнікі інстытута перадалі ў вытворчасць 74 навуковыя распрацоўкі, атрымалі 18 аўтарскіх пасведчанняў і патэнтаў.

**Ася Куніцкая**

# «Мачылаўка» ў Расеі набірае абароты...

**Палітычныя падзеі, якія адбываюцца цяпер у Расеі, развіваюцца настолькі прадказальна, што назіраць за імі нават маркотна. Ніякай інтрыгі, усё проста і адназначна, як падручнік гісторыі КПСС альбо службовая запіска ідэалагічнага глаўка КГБ. Няма ніякай загадкі і таямнічасці ў асобе прэзідэнта Пуціна. І ніколі не было. Ягоная адміністрацыя прэзідэнта аднаўляе імперска-бюракратычны лад арганізацыі дзяржаўнай улады, які абапіраецца на палітычнае насілле як на асноўны спосаб кіравання грамадствам (таталітарызм). Тое самае мы назіраем ужо каторы год у сябе ў Беларусі. План таталітарнай рэстаўрацыі, хаця публічна і не абвешчаны, уключае тыя самыя этапы і сродкі, якія ў Беларусі і ў Расеі супадаюць ледзь не літаральна.**

Першай задачай, якую паставіў перад сваёй камандаю Пуцін, стала задача разгрому недзяржаўных СМІ. Сёлета ўвесну спецслужбы правялі дэманстратыўную правакацыю супраць карэспандэнта радыё «Свабода» Андрэя Бабіцкага, падвялі яго пад крымінальны кодэкс, «падставілі» нібыта за сувязі з чачэнскімі тэрарыстамі і дагэтуль трымаюць на кручку судовага пераследу. Потым узяліся за холдынг «Медыя-мост»: тэлебачанне холдынгу паказвае ляльку прэзідэнта, кпіць з крамлёўскіх верхаводаў і, галоўнае, не заходзіцца ў шавіністычным угары пры паказе вайны ў Чачні. Гэтага дастаткова для таго, каб залічыць шэфа «Маста» Уладзіміра Гусінскага ў галоўныя ворагі рэжыму і пачаць яго «мачыць». Пакуль што сродкамі крымінальнага права і рукамі генпракурора. Пакуль што некваліфікавана і груба - за гады праўлення Ельцына страцілі кваліфікацыю. Але хутка адновяць багаты досвед - традыцыі чэкістаў у іх у пашане.

Другая задача - ліквідацыя рэальнага федэралізму і самакіравання. Тут выкарыстоўваецца метад увядзення прэзідэнцкай вертыкалі ўлады, пакуль што паралельнай мясцовым выбарчым органам, але з перспектывай іх замены «вертыкаллю». Усё, як у нас.

Пасля паўстае трэцяя задача - ліквідацыя апазіцыі ды іншадумства. Першымі апалу Крамля спазналі самыя рэальныя канкурэнты цяперашніх крамлёўскіх босаў Лужкоў з Прымаковым; прыхільны да апошніх губернатар-«уклонист» з Пецярбургу Якаўлеў хуценька падтрымаў «генеральную лінію». Незгаворлівых губернатараў адкрыта запалохваюць арыштамі і «пасадкамі», а ўпартых палітыкаў, такіх, як Рыгор Яўлінскі ці Сяргей Кавалёў, усімі сродкамі выціскаюць з палітычнага поля ўлады ў маргінальныя прасторы дысідэнцтва.

І тады, калі, нарэшце, «усіх замочаць», надыдзе блаславёная пара набліжаным да ўлады алігархам бесперашкодна гандляваць нафтай, газам і пакетамі акцыяў, а крамлёўскім правадырам - дзяржаўнымі пасадамі, ліцэнзіямі і канцэсіямі. Аскецтва першабальшавікоў сёння прызнанае «пераборам». А ў астатнім - усё, як за камуністамі ды чэкістамі. У тым ліку, палацовыя інтрыгі, барацьба за ўладу паміж разнастайнымі кланамі, рэпрэсіі да нядаўніх «паплечнікаў» - усё тое, што сэр Чэрчыль называў «барацьба мядзведзяў пад дыванам».

Прагнозы адносна будучыні Расеі менавіта таму выглядаюць вельмі пэўнымі, што планы КПГБ (коммунистической партии государственной безопасности) былі абкатаныя ў нашай краіне. Расейскія палітыкі новай хвалі так і не зразумелі, што падтрымка беларускага рэжыму была для іх капаннем уласнага долу. У КПГБ няма сяброў, у КПГБ ёсць інтарэсы. Інтарэсы манапольнага валодання ўладай, матэрыяльнымі і фінансавымі рэсурсамі велізарнай краіны, а таксама захопу кантролю над душамі сваіх прыгонных для пераўтварэння іх у дысцыплінаваных рэкрутаў на службе Ея Вялікамосці КэПэГэБэ.

Праблема ў тым, што рускі народ не мае такой фатальнай нацыянальнай каштоўнасці, уласцівай беларусам, як «абы не было вайны». Рускія, наадварот (вялікі народ, нічога не скажаш!), заўсёды гатовыя да змагання: «вайна - дык вайна». І яны будуць змагацца. Памкненне рускага народа вызваліцца ад унутранага акупанта, якім выступае расейская дзяржава, заўсёды вызначала гістарычны рух Расеі.

Словам, усіх не «замочыш». Гісторыя, такім чынам, працягваецца.

Р. Гусінскага, арыштаванага ў Маскве пракуратурай 13 чэрвеня нібыта за махлярства ў асабліва буйных памерах, выпусцілі ў мінулую пятніцу пад падпіску аб нявыездзе. Паўплывала міжнародная салідарнасць і хваля абурэння ў расейскім грамадстве. Яўлінскі заклікаў да стварэння агульнага антыфашысцкага цэнтра. Але шмат каго ў краіне, і не толькі, КПГБ напалохаў. У сённяшняй Расеі на месцы Гусінскага і Бабіцкага можа быць абсалютна кожны. Тыя, хто не спалохаўся, рыхтуюцца да змагання. Барацьба толькі пачынаецца...

**Сяргей Самасей**




# Выбары перанясуць?

**Каля чатырох гадзін працягвалася 20 чэрвеня сустрэча парламенцкай «тройкі», якая знаходзіцца ў Менску з візітам, з прадстаўнікамі Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партый і членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання. Сустрэча праходзіла за зачыненымі дзвярыма.**

Кіраўнік рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ Адрыян Севярын, як паведаміў адзін з удзельнікаў сустрэчы, падкрэсліў, што міжнародныя арганізацыі ўвесь час памятаюць аб чатырох умовах, без выканання якіх беларускімі ўладамі выбары не могуць быць прызнаныя дэмакратычнымі. А.Севярын таксама зазначыў, што міжнародная супольнасць не будзе аказваць ніякага ціску на апазіцыю з мэтай падштурхнуць яе да ўдзелу ў парламенцкіх выбарах.

Прадстаўнікі апазіцыі - Анатоль Лябедзька, Вінцук Вячорка, Уладзімір Нісцюк ды іншыя - падчас размовы гаварылі пра тое, што апазіцыя не баіцца браць удзел у выбарах, яна проста не хоча удзельнічаць у выбарчым фарсе. Паколькі сёння, на думку прадстаўнікоў апазіцыі, ніводная з чатырох умоваў, прапанаваных еўрапейскімі арганізацыямі, не рэалізаваная, некаторыя ўдзельнікі прапаноўвалі адкласці выбары на больш позні тэрмін.

**Ул. інф.**

# ЗША зноў заклікаюць

**Злучаныя Штаты Амерыкі разглядаюць судовы працэс і вырак, вынесены апазіцыйным палітыкам Мікалаю Статкевічу і Валерыю Шчукіну, як «палітычна абумоўленыя». Пра гэта гаворыцца ў заяве пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь, распаўсюджанай 21 чэрвеня.**

Нагадаем, што Менскі гарадскі суд прызнаў М.Статкевіча і В.Шчукіна вінаватымі ў арганізацыі і актыўным удзеле ў Маршы Свабоды апазіцыі, які прайшоў у Менску ў кастрычніку 1999 года. Статкевіч асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прысуду на 2 гады; Шчукін - да 1 года пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прысуду на 1 год.

«Наколькі нам вядома, - гаворыцца ў заяве пасольства ЗША, - абодва яны наважаны падаць апеляцыю, і мы заклікаем урад адмяніць усе абмежаванні і спагнанні, прысуджаныя спадарам Статкевічу і Шчукіну. Працяг пераследу апазіцыйных палітыкаў можа толькі паслабіць клімат даверу і захавання правоў чалавека, які з'яўляецца неабходнай умовай для свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі».

**Ірына Леўшына**

# Ружы ад гарадзенскай міліцыі... і шыпы

Памятаеце, паважаныя чытачы, рамантычны радок: «...как хороши, как свежи были розы...»?

Адзін толькі радок зрабіў аўтара славутым у галіне паэзіі. На сваё «месца пад сонцам» - і таксама з дапамогаю аднаго радка, але ўжо ў галіне юрыспрудэнцыі - прэтэндуе і гарадзенская міліцыя.

Вось - «знакамітая» фраза з ліста Гарадзенскага УУС, накіраванага на адрас Гарадзенскага абласнога аддзялення Беларускага Хельсінкскага Камітэта па абароне правоў чалавека, падпісанага начальнікам Упраўлення аховы грамадскага парадку УУС С.Конкіным: «Пытаннямі забеспячэння правоў грамадзянаў, якія ўтрымліваюцца ў спецустановах міліцыі, займаюцца спецыяльныя аддзелы і службы УУС-МУС...». Вось так, не больш і не менш!..

Сапраўды - «перл» міліцэйскай свядомасці! Самі затрымліваем і самі ж забяспечваем правы затрыманых. Падобна на пачатак нейкага анекдота.

Але перадгісторыя такая: Гарадзенскае аддзяленне БХК звярнулася ў РАУС Кастрычніцкага раёна г.Гродна па дазвол наконт наведвання спецпрыёмніка з мэтаю: азнаёміцца з тым, як выконваюцца правы затрыманых грамадзянаў, у якіх умовах утрымліваюцца так званыя «сутачнікі»...

Дык вось, на зварот прадстаўнікоў БХК, начальнік Кастрычніцкага РАУС Г.Хацько адказаў, што дапусціць туды нікога не можа, бо супрацоўнікі РАУС кантралююць сваю дзейнасць самі. І наогул, над гэтай спецустановай - заўсёды «бясхмарнае неба», а скаргаў аб парушэннях правоў чалавека ні ад каго (і вера годна, ніколі) не паступала. Так можна было зразумець адказ гэтага начальніка.

Аднак мы зразумелі яго не так і накіравалі адпаведную скаргу другому, больш высокаму начальніку, ў УУС. Падначалены гэтага вышэйшага начальніка і «нарадзіў» знакамітую фразу, пададзеную ў пачатку артыкула.

І тут мы неспадзявана, мо і не дарэчы, узгадалі, што «дбайная дзейнасць» супрацоўнікаў спецпрыёмніка, які знаходзіцца ў распараджэнні Кастрычніцкага РАУС, стала набыткам Камітэта супраць катаванняў Савета Еўропы і адлюстравана ў хроніках гэтага камітэта за 1999 год, а ўтрыманне адміністратыўна-арыштаваных у гэтай спецустанове было прыраўнаванае да катаванняў.

Напрыклад, часцяком у адной камеры размяшчаюць і наркаманаў, і п'янтосаў, і бамжоў, і асобаў, якія падазраюцца ва ўчыненні крымінальных злачынстваў. Прычым, напаўняльнасць камераў перасягае нарматыўную ў два-тры разы. Людзі вымушаныя сядзець на халоднай падлозе, прагулкі на свежым паветры не прадугледжаны, у прыбіральню выводзяць толькі раз на суткі.

Ад паху мачы, нямытых целаў, бруднай вопраткі, цыгарэтнага дыму ў камерах стаіць смурод. Антысанітарныя ўмовы ўтрымання садзейнічаюць распаўсюджванню заразных хваробаў.

Харчаванне - адзін раз на суткі: дзве лыжкі супу і лыжка кашы. Забароненыя перадачы прадуктаў, спатканні са сваякамі, тэлефонныя размовы.

Персанал гэтай спецустановы не лічыць, мяркуючы па абыходжанню з арыштаванымі, «насельніцтва» камераў за людзей. Што ім да таго, што і яны створаныя па вобразу і падабенству Боскаму...

Нядаўна аднаго грамадзяніна даставілі ў суд (спатрэбіўся для дачы паказанняў па грамадзянскай справе) пасля яго тыднёвага ўтрымання ў спецпрыёмніку Кастрычніцкага РАУС.

Пракурор, не ведаючы пра тое, адкуль яго даставілі, грозна спытаў: «Калі Вы апошні раз глядзеліся ў люстэрка?» Каментары залішнія... Нават у бывалага пракурора выгляд гэтага няшчаснага выклікаў шок.

А ў нас узнікаюць і іншыя пытанні. Калі не пускаюць у дадзеную ўстанову прадстаўнікоў БХК, значыць, ёсць што ўтойваць? А як жа быць з прынцыпамі, якія ўказаныя ў Законе Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі»: гуманізму, галоснасці (г.зн. адкрытай для грамадзянаў, грамадскасці і сродкаў масавай інфармацыі), павагі да правоў чалавека?

Дарэчы, менавіта гэтыя прынцыпы змешчаныя на фасадзе Гарадзенскага УУС.

Як быць з выкананнем артыкула 25 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім запісана: «Ніхто не павінен падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму абыходжанню, якое зневажае асабістую годнасць, ці пакаранню», з выкананнем міжнародна-прававых абавязацельстваў нашай дзяржавы? У тым ліку і з тымі палажэннямі, якія забараняюць бесчалавечнае абыходжанне, што зневажае асабістую годнасць, альбо пакаранне?

Як быць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб грамадскіх аб'яднаннях»? Гэты закон надае правы грамадскім аб'яднанням бесперашкодна атрымліваць інфармацыю наконт дзейнасці дзяржаўных органаў, а таксама гарантуе законныя правы грамадскіх аб'яднанняў.

Аднойчы першы прэзідэнт ЗША Джордж Вашынгтон сказаў: «Калі народу не будзе дадзена магчымасць кантраляваць уладу, усе мы: Прэзідэнт, урад, Вярхоўны Суд, Кангрэс...пературымся ў ваўкоў».

У Беларусі працэс адлучэння прадстаўнікоў грамадскасці ад кантролю за дзейнасцю органаў дзяржаўнай улады, як кажуць, «пайшоў» ужо даўно. Можна канстатаваць, што ўлада становіцца недасягальнай і непадкантрольнай грамадзянам Рэспублікі Беларусь. Гэта сцвярджэнне мае напасрэднае дачыненне і да міліцэйскіх структураў.

Агульнавядома, што міліцэйскія кадры маюць нізкую прававую культуру і свядомасць. Асабліва гэта заўважна ў судовых працэсах. Напрыклад, супрацоўнікі міліцыі - сведкі па справе С.Мальчыка (старшыні Гарадзенскай філіі БНФ) так і не здолелі патлумачыць суду некаторых элементарных паняццяў. На іх думку (слухалася справа аб парушэннях парадку правядзення мітынга і масавага шэсця 25 сакавіка 2000 года), масавым шэсцем з'яўляецца любое перамяшчэнне грамадзянаў.

Прадстаўнікі БХК заявілі ў судзе хадайніцтва пра выклік у суд для ўсведамлення паняцця - «вулічнае шэсце» - начальніка Ленінскага РАУС, палкоўніка С.Васілеўскага, мяркуючы, што ён ужо дакладна гэта ведае. Але, «независимый» і «беспристрастный» суддзя Дз.Дземчанка адхіліў гэтае хадайніцтва, нічым сваю адмову не матывуючы.

Падобна на тое, што ў суд лягчэй выклікаць, напрыклад, прэзідэнта ЗША, чым начальніка раённай міліцыі.

Так, спадары, а як жа пабудаваць прававую, дэмакратычную, сацыяльную дзяржаву і сказаць, што першы артыкул Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь - не пусты гук, калі так сябе паводзіць вам дазваляе «ўсенародна» абраны?.. Так заўтра ён можа вельмі лёгка і звыкла адмовіцца ад таго, што гаварыў сёння. Таму не перагніце палку ў сваёй руплівасці!

Калі ацэньваць адказ з УУС і вядомую фразу начальніка Упраўлення аховы грамадскага парадку УУС С.Конкіна ў пачатку артыкула, з улікам пададзных прыкладаў, варта нагадаць некаторым міліцэйскім начальнікам, што ў новым Крымінальным Кодэксе Рэспублікі Беларусь устаноўлена адказнасць за перашкоду законнай дзейнасці грамадскіх арганізацыяў. Ім бы належала азнаёміцца з артыкулам 194 новага Крымінальнага Кодэкса. Хутка ён пачне дзейнічаць.

А прадстаўнікі БХК не маюць намеру апускаць рукі. І ўлада, у тым ліку і міліцэйская, павінна ставіцца да гэтага з разуменнем. І не трэба нервавацца, спадары міліцыянты. Узгадайце, што Закон - для ўсіх адзін, і для ўсіх дзейнічае аднолькава.

Гарадзенскае абласное аддзяленне БХК у поўнай меры будзе выкарыстоўваць свае правы, дадзеныя Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь, абараняючы правы і законныя інтарэсы грамадзянаў. У тым ліку і ў міліцыі.

**Аляксандр Антанюк,**
**Старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення БХК**

**Грамадская прыёмная Гарадзенскага аддзялення БХК працуе з 11.00 да 17.00, акрамя суботы і нядзелі. Грамадзяне могуць звяртацца да юрыстаў БХК на адрас: горад Гродна, вуліца Стэфана Баторыя,8 , пакой 201 (гатэль «Нёман»), альбо тэлефанаваць на нумар 44-61-43.**

# Штраф на лішкі жылой плошчы балюча б'е па старых і хворых кватэраўладальніках

**Напрыканцы сакавіка да пункта 1.2 Пастановы ўрада N1332 ад мінулага года, якая рэгулюе парадак аплаты жылля, было прынята дапаўненне. Сутнасць дапаўнення ў наступным: да кватэранаймальнікаў былі прыроўненыя ўладальнікі прыватнага жылля. На практыцы гэта азначае тое, што цяпер уласнікі жылля нароўні з арандатарамі (наймальнікамі) будуць плаціць за лішкі жылой плошчы не па тарыфу для насельніцтва, а па так званым «нарматыўным сабекошце» (на сённяшні дзень 24 руб.46 кап.), які ў некалькі разоў перавышае тарыф. Гарадзенскія ЖРЭУ пакуль не маюць дадзеных адносна агульнай колькасці жыльцоў, якія падпадаюць пад дзеянне новай пастановы. Ясна толькі, што дадатак пачынае дзейнічаць у траўні - з моманту апублікавання.**

Лішкам жылплошчы прызнаецца тая плошча, якая больш за 20 квадратных метраў на чалавека і яшчэ плюс 10 метраў на сям'ю. Гарадзенскія ЖЭСы ўжо пачынаюць налічваць плату за карыстанне лішкамі жылплошчы ў траўні. Уладальнікі жылля тэлефануюць, пішуць і асабіста прыходзяць да супрацоўнікаў камунальных службаў, каб выказаць сваё крайняе абурэнне ўвядзеннем падатку альбо штрафам на міфічныя «лішкі». Разам з кліентамі абураюцца і работнікі ЖЭСаў і ЖРЭУ, але яны вымушаныя выконваць пастановы ўрада, хоць бы і самыя бязглуздыя.

Хто ва ўрадзе прыдумаў гэтыя «лішкі»? З чаго зыходзяў? Чаго дамагаўся? У мяне ёсць свой адказ на гэтае пытанне.

Магчыма, што ўрад распачаў сапраўдную вайну супраць састарэлых і малазабяспечаных сем'яў з мэтаю адабраць у іх жыллё і пераразмеркаваць на карысць чыноўнікаў і ўдзельнікаў рынку нерухомай маёмасці. Бо лішкі жылплошчы ў нас прыпадаюць не на багатых і самых багатых (тыя ўвогуле жывуць у катэджах), якія складаюць нязначную меншасць насельніцтва, а на старых, бедных і хворых, якіх пераважная большасць.

Прыкладам можа служыць сітуацыя з Тамарай Уладзіміраўнай. Усё жыццё яна працуе выхавальніцай на паўтары-дзве стаўкі. Спачатку падымала дзяцей. Будавала «кааператыў» (тут вельмі дапамаглі бацькі). Цяпер дзеці жывуць асобна, але Тамара вельмі рада ім хоць у нечым падсабіць, таму ўсё яшчэ працуе, хаця і атрымала пенсію. Некалькі «лішніх» метраў падвысілі яе кватплату практычна ў два разы, і цяпер кошт аплаты кватэры ў месяц - амаль тры мільёны рублёў. «Пакуль я працую, яшчэ магу аплаціць свае рахункі, - кажа Тамара Уладзіміраўна, - але ў любы момант мой кантракт можа скончыцца, а тады давядзецца цяжка». Але не толькі падвышэнне аплаты хвалюе пенсіянерку. Хвалюе несправядлівасць. Бясплатнай кватэры ад дзяржавы ёй не дасталося. За ўласныя сродкі, якія адрывала ад сябе і дзяцей, пабудавала «кааператыў», паводле сённяшніх паняццяў - прыватную ўласнасць. І вось цяпер невядомыя чыноўнікі вырашылі, што яна мае «лішкі» метраў, жыве занадта раскошна, а таму павінна заплаціць за празмернае багацце. Вось гэтага Тамара Уладзіміраўна чыноўнікам, якія самі паатрымлівалі дармовыя кватэры з усімі выгодамі, ніколі не даруе.

Аналагічным чынам вымушаюць плаціць за «лішкі» жылплошчы тых, хто выкупіў, прыватызаваў свае кватэры. «Мы з бацькам сабралі свае чэкі «Жыллё», «Маёмасць» і выкупілі кватэру, хаця маглі прадаць чэкі і купіць на гэтыя грошы, напрыклад, тэлевізар. Бацька неўзабаве памёр, - расказвае Аляксандр Генрыхавіч. - У выніку ў мяне ўтварыўся «лішак». Але я ў ЖЭСе сказаў, што не буду аплочваць за міфічныя «лішкі». І не буду. Гэта мае «квадратныя метры», і дзяржаве да іх няма ніякай справы. Няхай чыноўнікі і іх начальнікі плоцяць за метраж сваіх кабінетаў, апартаментаў, лазняў, паляўнічых домікаў і г.д.» Калі гэтая «абдзіралаўка» не спыніцца, то Аляксандр Генрыхавіч мае намер узяцца «за палітыку»: патрабаваць у Канстытуцыйнага Суда перагляду пастановы ўрада, арганізаваць суполку ўладальнікаў «лішкаў жылплошчы», праводзіць акцыі пратэсту. Ад сябе дадам, што раней гэта быў надзвычай апалітычны чалавек. Але і яго дасталі...

Наступствам гэтага рашэння будзе тое, што старыя і нямоглыя пачнуць прадаваць сваё жыллё з «лішкамі» метраў. Кошты ўпадуць, і кватэры старых лёгка скупяць гандляры нерухомай маёмасцю ці спекулянты. А потым, калі штучны бум, справакаваны ўрадам, спадзе, на гэтых кватэрах добра нажывуцца законныя і нелегальныя рыэлтары. Пасля чаго аддзякуюць чыноўнікам. Ці не ў гэтым сапраўдны сэнс абкладання штрафам «лішкаў» жылплошчы?

**Сяргей Сноп**

# Паштовы канверт у гонар акадэміка Астроўскага

**Калі б не смяротная хвароба, Юрыю Міхайлавічу Астроўскаму 29 чэрвеня споўнілася б 75 гадоў. У гонар акадэміка выдадзены мастацкі канверт, на якім змешчаны яго партрэт і Інстытут біяхіміі, заснавальнікам і першым дырэктарам якога ён быў.**




Юрыю Міхайлавічу за высокія дасягненні ў развіцці навукі і падрыхтоўцы навуковых кадраў у 1979 годзе прысвоена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч навукі БССР». У 1986 годзе ён выбраны акадэмікам АН БССР па аддзяленні біялагічных навук. Ім выканана і апублікавана больш чым 500 навуковых прац, у тым ліку 10 манаграфій і 15 вынаходніцтваў. Сярод яго публіцыстычных твораў асобае месца займае кніга паэзіі і публіцыстыкі «Душу раскрываю насцеж», якую ён не пабачыў пры жыцці.

Юрыя Міхайлавіча Астроўскага як выдатнага навукоўцу і чалавека глыбокіх дэмакратычных перакананняў, добра ведалі не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Ён пакінуў глыбокі след у памяці многіх людзей. Хай выдадзены канверт будзе яшчэ адным напамінкам пра гэтую неардынарную асобу.

**Фёдар Ігнатовіч**

# У сямі «нянек» бізнес без...

**15 чэрвеня ўвайшлоў сілу рашэнне Гарадзенскага гарвыканкама «Аб падтрымцы малога прадпрымальніцтва і аб арганізацыі навучання прадпрымальнікаў».**

Гарвыканкам рэкамендаваў заснавальнікам ствараемых юрыдычных асоб і фізічным асобам, ахвотным ажыццяўляць прадпрымальніцкую дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, перад дзяржаўнай рэгістрацыяй вывучыць пытанні працоўнага, падатковага і адміністрацыйнага заканадаўства, азнаёміцца з правіламі гандлю, аховы працы, вядзення бухгалтарскага ўліку і даведацца пра ўзаемаадносіны з кантралюючымі органамі ў Гарадзенскім гарадскім бізнес-цэнтры. Кіраўніцтву бізнес-цэнтра даручана арганізаваць рэгулярныя (не радзей аднаго разу ў месяц) курсы-семінары «Пачынаючым прадпрымальнікам» у адпаведнасці з зацверджанай гэтым жа рашэннем праграмай.

Кошт навучання аднаго чалавека вызначаны ў памеры дзвюх мінімальных зарплат. Кіраўнікам дзяржаўных службаў, установаў і арганізацый, кампетэнцыя якіх закранае інтарэсы індывідуальных прадпрымальнікаў, рэкамендавана аказваць бізнес-цэнтру садзеянне ў правядзенні курсаў-семінараў. У рашэнні гарвыканкама адзначаецца, што яно прынята дзеля больш кампетэнтнай і рацыянальнай арганізацыі гаспадарчай дзейнасці індывідуальнымі прадпрымальнікамі горада.

**Ася Куніцкая**

# Страхаваць па-новаму

**1 ліпеня ў Беларусі мяняецца парадак і ўмовы правядзення абавязковага страхавання грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў. Гэта прадугледжана ўказам прэзідэнта № 339 «Аб удасканаленні парадку і ўмоваў правядзення абавязкована страхавання грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў», падпісаным 12 чэрвеня.**

Згодна з інфармацыяй Беларускага бюро па транспартным страхаванні, у новай рэдакцыі палажэння аб парадку страхавання грамадзянскай адказнасці ёсць шэраг зменаў. Напрыклад, мінімальны тэрмін заключэння дагавора страхавання скарочаны з трох да аднаго месяца. Уведзены павышаючыя і паніжаючыя каэфіцыенты памеру страхавога ўнёску, зыходзячы з месцазнаходжання (месца жыхарства) уладальніка транспартнага сродку. Гэта зроблена з улікам таго, што колькасць дарожна-транспартных здарэнняў у гарадской мясцовасці значна вышэйшая, чым у сельскай. Апрача таго, зараз памер страхавога ўзносу будзе карэктавацца ў залежнасці ад аварыйнасці/безаварыйнасці выкарыстання транспартнага сродку. У прыватнасці, для кіроўцаў, што ўчыняюць ДТЗ па сваёй віне, прадугледжаны павышаючыя каэфіцыенты. Наадварот, у выпадку безаварыйнай язды прадугледжаны скідкі.

Замест працэдуры палажэння аб пераходзе правоў і абавязкаў па дагаворы страхавання пры адчужэнні транспартнага сродку ўведзена другая працэдура - прыпыненне дагавора страхавання. Ёсць таксама шэраг іншых новаўвядзенняў. Указам А.Лукашэнкі Савету Міністраў даручана вызначыць ліміты адказнасці за шкоду, нанесеную ў выніку дарожна-транспартнага здарэння; устанавіць памеры ўнёскаў па абавязковым страхаванні грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў і карэктуючыя каэфіцыенты да гэтых унёскаў у адносінах да рэзідэнтаў.

Варта адзначыць, што дагаворы страхавання, заключаныя да 1 ліпеня 2000 года, дзейнічаюць да заканчэння іх тэрміну на ранейшых умовах.

# Румынія ўводзіць візы

**Урад Румыніі аб'явіў аб увядзенні з 1 ліпеня 2000 года візавага рэжыму для Рэспублікі Беларусь. Пра гэта паведаміў на брыфінгу 15 чэрвеня прэс-сакратар Міністэрства замежных справаў Беларусі Мікалай Барысевіч.**

Паводле ягоных словаў, з увядзеннем візавага рэжыму для ўезду ў Румынію або для перасячэння яе тэрыторыі транзітам беларусам неабходна віза, якую можна аформіць у пасольстве Румыніі ў Менску ці ў любым іншым дыпламатычным прадстаўніцтве Румыніі ў Беларусі. Візы выдаюцца пры прад'яўленні запрашэнняў, ваўчараў, турыстычных або санаторна-курортных пуцёвак. Падставай для выдачы транзітных віз з'яўляецца віза краіны следавання. Неабходна таксама аформіць візу тым грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія выязджаюць у Румынію або едуць транзітам цераз яе тэрыторыю да ўвядзення візавага рэжыму, але плануюць вяртацца цераз тэрыторыю Румыніі 1 ліпеня і пазней.

Як паведаміў М.Барысевіч, 12 чэрвеня атрымана нота Міністэрства замежных справаў Румыніі, у якой паведамляецца пра зніжэнне стаўкі консульскіх збораў за афармленне віз у перыяд з 1 ліпеня па 1 кастрычніка 2000 года для асобаў, якія прыбываюць у Румынію на аздараўленне або перасякаюць тэрыторыю Румыніі транзітам з мэтай аздараўлення ў Балгарыі.

**Ірына Сазановіч**

# Яндзіеў як персона нон грата

**17 красавіка 2000 года аддзел пашпартна-візавай службы АУС Ленінскага раёна горада Гродна адмовіў грамадзяніну Расеі Я.Яндзіеву ў рэгістрацыі, неабходнай для прадаўжэння знаходжання ў горадзе над Нёманам, строга ўказаў выехаць з Гродна ў 10-дзённы тэрмін разам з жонкай і дзецьмі. Пакрыўджаны Якуб Магаметавіч напісаў заяву начальніку УУС аблвыканкама, патлумачыў сваю просьбу наконт адмены рашэння аб дэпартацыі. У прадугледжаны законам месячны тэрмін адказу не дачакаўся. Тады пісьмова звярнуўся ў абласное аддзяленне Беларускага Хельсінкскага камітэта.**

Якуб - карэнны жыхар Грознага, сталіцы неспакойнай Чачні. Меў кватэру ў пяціпавярховым доме. Але будынак быў разбіты ўшчэнт расейскай баявой авіяцыяй. Усе, хто меў магчымасць пакінуць крушні былога горада, зрабілі гэта. Якуб Яндзіеў паспяшаўся ў далёкую Беларусь, на радзіму жонкі. У Гродне цешча не адмовіла прыняць сям'ю бежанцаў, пацясніліся ў сваёй трохпакаёвай кватэры. Тут летась нарадзілася другое дзіця. Першаму споўнілася восем гадоў.

Як патлумачыў намеснік старшыні абласнога аддзялення БХК Алег Сідзігаеў, хадайніцтва Якуба Яндзіева падтрымана. Патрэбныя дакументы накіраваныя па інстанцыях. Праваабаронца адзначыў, што ў дачыненні да грамадзяніна Расейскай Федэрацыі з боку беларускіх службовых асобаў была праяўлена абыякавасць, нежаданне разабрацца па сутнасці справы. Парушаныя прынцыпы і нормы, усталяваныя ў дамовах і пагадненнях паміж Беларуссю і Расеяй, краінамі СНД.

**Антон Лабовіч**

# Галандцы нам дапамогуць!!!

**Галандыя можа ўкласці ў сельскую гаспадарку Беларусі 10-15 мільёнаў даляраў. Пра гэта журналістам паведаміў кансультант сакратарыята Міністэрства замежных справаў рэспублікі Уладзімір Собалеў.**

Па ягоных словах, два з паловай гады таму ў Галандыі - адной з самых аграрна развітых краін свету - была прынята праграма скарачэння сельскагаспадарчага сектара эканомікі. Галандцам, па-першае, не трэба столькі сельгаспрадукцыі, і па-другое, яны лічаць, што лепей выкарыстоўваць землі для адпачынку людзей, чым бесперапынна іх эксплуатаваць. З гэтай нагоды было прынята рашэнне аб скарачэнні занятых у сельскай гаспадарцы на 25 працэнтаў на працягу 5-8 гадоў.

Прааналізаваўшы сітуацыю, група галандскіх фірмаў прыйшла да высновы, што многія сяляне не жадаюць пакідаць занятак сельскай гаспадаркай і перавучвацца на «гарадскія» спецыяльнасці, а таму нават гатовы пераехаць у іншую краіну і там працаваць на зямлі. Праз пасольства рэспублікі ў Бруселі гэтыя фірмы звярнуліся ў беларускі ўрад з прапановай прывезці сюды галандскіх сялян з сем'ямі, тэхнікай і тэхналогіямі. Пры гэтым ставілася ўмова, якая супярэчыць беларускаму заканадаўству: зямля павінна быць перададзена ў асабістую ўласнасць. Перамовы працягваліся даволі доўга, у іх бралі ўдзел прадстаўнікі адміністрацыі прэзідэнта. Нарэшце галандскі бізнес пагадзіўся на невялікі эксперымент, які цяпер праходзіць у Гарадзенскай вобласці.

Калі ягоныя вынікі будуць станоўчыя, то галандскі бок можа адмовіцца ад прэтэнзій на прыватную ўласнасць на зямлю і распачаць буйнамаштабны праект, уклаўшы ў сельскую гаспадарку Беларусі як мінімум 10-15 мільёнаў даляраў. Падобны праект, паведаміў У.Собалеў, ёсць і з боку Германіі. Але ў адрозненне ад галандцаў немцы не ставяць умовы прыватнай уласнасці на зямлю, яны згодныя на арэнду на 99 гадоў.

**Вячаслаў Будкевіч**

# Эпідэмія СНІДу

**У Гарадзенскай вобласці расце колькасць ВІЧ-інфікаваных. Прычым, пачынаючы з верасня мінулага года гэты працэс набыў інтэнсіўны характар, і на сёння ў вобласці зарэгістраваны 93 інфікаваныя. 69 працэнтаў з іх складаюць мужчыны. 85 працэнтаў заразіліся пры ўжыванні наркотыкаў, 14 працэнтаў - палавым шляхам.**

Сёлета ў сакавіку ВІЧ-інфекцыя была выяўлена ў паўтарагадовага дзіцяці, бацькі якога інфікаваныя. Сярод тых, хто заразіўся, асноўную масу (67,5 працэнта) складаюць людзі ва ўзросце 20-29 гадоў. Па ліку інфікаваных у вобласці лідзіруе горад Ліда, дзе вірус выяўлены ў 73 чалавек. Успышка інфекцыі абумоўлена распаўсюджваннем у горадзе наркаманіі.

У Гродне зарэгістравана 14 выпадкаў інфікавання, чатыры з якіх - з пачатку года і таксама ў асяроддзі наркаманаў. Зрэшты, у абласным цэнтры прафілактыкі СНІДу перакананы, што ў Гродне ВІЧ-інфікаваных не менш, чым у Лідзе; проста не ўсе яны трапілі ў поле зроку медработнікаў.

**Ася Куніцкая**

### Да 110-годдзя паэта Макара Краўцова

# Нам засталася спадчына

Ціха і павольна нясе свае воды Котра - лясная рачулка, якая пачынае свой бег дзесьці з балотаў дзяржаўнага запаведніка «Чапкляй» у Літве. У верхняй плыні па ёй праходзіць дзяржаўная мяжа паміж Літвой і Беларуссю, потым мяжа Гарадзенскага і Шчучынскага раёнаў. Тут знаходзіцца маленькая лясная вёсачка Баброўня - мая Радзіма. Вёска, якая дала Гарадзеншчыне двух паэтаў - Макара Краўцова і Міхася Васілька. Калісьці гэтыя мясціны ўваходзілі ў склад Берштаўскай воласці, а землі належалі памешчыку Аўгусту Цітову Чачоту, маёнтак якога знаходзіўся ў вёсцы Галавачы. Пасля адмены ў 1861 годзе прыгоннага права, сяляне атрымалі волю і маглі набываць ва ўласнасць зямлю. Жыхары вёсак Бершты, Сухары і Навасёлкі пачалі купляць тут прыватныя ўчасткі зямлі і сталі першымі пасяленцамі Баброўні.

Прыгажосць тутэйшых мясцінаў у тыя даўнія гады вабіла не толькі земляробаў. Як апавядаў мне бацька, сюды на паляванне прыязджалі заможныя паны з Гродна, Беластока і нават з Варшавы. З сабою прывозілі чэлядзь, прыслугу і сапраўдных паляўнічых сабакаў. З мясцовых жыхароў наймалі загоншчыкаў, за што плацілі неблагія грошы і нават частавалі цыгарэтамі і «манапольскай» пасля ўдалага палявання. Звяроў у мясцовых лясах вадзілася мноства. Бабры і выдры, вепрукі і казулі, асабліва шмат было зайцоў і лісіцаў. З драпежнікаў, акрамя ваўкоў, здабывалі нават рысяў.

Чыстая і глыбакаводная Котра, пакуль не правялі меліярацыю, шчодра адорвала сваім багаццем. Нават цяпер удачлівыя рыбакі ловяць тут шчупакоў вагою ў паўпуда, але гэта бадай што рэкорд. Старажылы ўспаміналі, што былі выпадкі, калі хатніх качак хапалі вялікія самы.

110 гадоў таму, 18 чэрвеня 1890 года, тут нарадзіўся малодшы брат майго дзеда Сымона - Макар Мацвеевіч Касцевіч. Мой прадзед Мацвей Касцевіч быў заможным селянінам. У яго было трыццаць шэсць дзесяцінаў ворнай зямлі, лесу і сенажацяў. Ажаніўся ён з удавою Марыяй, Мар'янкай - як звалі яе па-вулічнаму. Паходзіла Мар'янка з сям'і Ушкевічаў з суседняй вёскі Вострава. Ад першага мужа Хведара Касцевіча ў яе ўжо былі тры сыны-падлеткі Габрыэль, Антон і Хведар. Потым у сям'і Мацвея і Мары нарадзіліся сыны Сымон, Макар, дачка Агата і апошні сын Банік.

У Мацвея Касцевіча была вулічная мянушка Краўцоў, таму што ягоны продак калісьці шыў вяскоўцам кажухі, быў краўцом. Краўцоўская хата была самая вялікая ў вёсцы, з прыгожым ганкам і аздобленымі аканіцамі. Акрамя прасторнай кухні была вялікая зала і маленькі пакойчык. У зале ва ўсе часы танчылі на святах альбо калі спраўлялі ў вёсцы чыё-небудзь вяселле. Гаспадарка ў Мацвея была вялікая. Ён трымаў звычайна двух валоў, пару коней, дзевяць дойных кароваў, а таксама авечак і свіней.

Вялікая сям'я жыла дружна, паважалі бацькоў і старэйшых братоў. Поле было дагледжаным і давала добры ўраджай, жылі заможна. Мацвей Касцевіч стараўся ўсім дзецям даць прыстойнае навучанне. Але прагу да навукі мелі толькі Габрыэль, Макар і Банік, астатнія працавалі на гаспадарцы. Макара аддалі вучыцца ў царкоўнапрыходскую школу ў вёсцы Галавачы. Потым Макар узгадваў, што адзін з настаўнікаў па мянушцы Ваўчок, чалавек вельмі таленавіты, добра іграў на скрыпцы. Навучыў гэтаму і Макара. А за непаслушэнства біў вучняў смычком па вушах. Пасля заканчэння царкоўнапрыходскай школы Макар паступіў у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Пасля паспяховай здачы іспытаў ён працаваў настаўнікам.

Але ўжо адчуваўся подых першай сусветнай вайны. Бацькі Макара і ўжо жанатыя старэйшыя сыны Габрыэль, Антон, Хведар і Сымон са сваімі сем'ямі рушылі ў бежанства, у глыбіню Расеі, у горад Свіяж Казанскай губерні, затым іх размяркавалі ў сяло Сямікеева. Там яны перажылі рэвалюцыю, потым разруху і голад 1920-1921 гадоў.

У 1915 годзе Макара Краўцова прызвалі ў царскую армію і накіравалі на Паўночна-Заходні фронт. З дзеючай арміі з фронту Макар прыязджаў да бацькоў на пабыўку, тады ён быў у чыне прапаршчыка. На гэты час прыпадае станаўленне Макара Краўцова як актыўнага грамадскага дзеяча. Беларусы-вайскоўцы, што служылі ў 44-м армейскім корпусе абіраюць яго старшынёй карпуснога камітэта, а таксама дэлегуюць Макара на Усебеларускі з'езд (Кангрэс), які праходзіў у Менску ў снежні 1917 года.

Толькі праз дваццаць гадоў свае ўспаміны пра работу гэтага з'езда паэт надрукаваў у Вільні ў часопісе «Шлях моладзі» (N46, 1938 год). Падчас знаходжання ў дзеючай арміі ён пазнаёміўся з сястрой міласэрнасці Ганнай Станіславаўнай - будучай жонкай. У 1918 годзе Макар Краўцоў пачаў друкавацца ў беларускіх выданнях: часопісе «Маланка», газетах «Наша Ніва», «Саха». У гэты час ён напісаў шырока вядомы «Ваяцкі гімн» ці «Ваяцкі марш», які пачынаецца словамі «Вы выйдзем шчыльнымі радамі». Калі неўзабаве да «Ваяцкага марша» была напісана музыка, ён набыў шырокую вядомасць і папулярнасць, стаў гімнам у паўстанцаў Слуцкага збройнага чыну. Сам аўтар прымаў актыўны ўдзел у гэтым паўстанні. Калі яно пацярпела паразу, асноўныя сілы перайшлі ў Польшчу і былі там раззброеныя. Макар Краўцоў перабраўся ў Вільню, якая ў той час знаходзілася пад панскай Польшчай. Там Макар жыў у доме нумар 9 па вуліцы Папоўскай, куды неўзабаве прыехала яго жонка.



**Уладзімір Васільевіч Тэраўскі, харавы дырыжор, кампазітар і фальклярыст, аўтар музыкі да «Ваяцкага гімна»**

Узлёт паэтычнай творчасці Макара Краўцова прыпадае на 1920-1925 гады, калі ён піша вершы і прозу, фельетоны, займаецца перакладамі на беларускую мову твораў рускіх класікаў Л.Талстога, Лермантава, Купрына, Гогаля. Перакладае з польскай мовы на беларускую «Версальскі трактат». Рэдагуе «Беларускі каляндар на 1925 год», дапамагае пісьменнікам у справах выдавецтва.



**Макар Краўцоў (злева) падчас службы ў царскім войску. 1917 г.**

Янка Брыль у лісце да майго бацькі ад 20 красавіка 1990 года між іншым пісаў: «Да таго, што я ведаў пра Макара Краўцова і што ты мне дадаў праз газету і ў пісьме, хачу нагадаць табе і тое яшчэ, што калісьці ты даў яго віленскі адрас і я пісаў яму і атрымаў адказ. Я пытаўся ў яго, як бы гэта надрукаваць мой пераклад п'есы Л.Талстога «От ней все качества», а ён хацеў дапамагчы... Трагічны лёс добрага чалавека».

Старэйшая беларуская пісьменніца Зоська Верас успамінала: «Дзіўны гэта быў чалавек, нідзе не мог прыжыцца. Рабіў карэктуру майго батанічнага слоўніка. З жонкай жылі вельмі бедна. Усё шукаў працу, нідзе стала не працаваў».

Жывучы ў Вільні, не забываў Макар Краўцоў сваёй вёсачкі Баброўні. Разам з жонкай ён часта наведваўся сюды. Сустракаўся з землякамі, сваякамі. З яго натхнення збіраюцца ў Баброўні настаўнікі, якіх у той час было сем чалавек. Ладзяць спектаклі-«камедыйкі» ў краўцоўскай хаце. Дапамагаюць яму стрыечны брат Габрыэль і ягоныя дзеці, сын Грыша і дачка Вера, якая вельмі прыгожа малявала і выконвала ўсе дэкарацыі, а таксама Міхась Васілёк і малодшы брат Макара Банік. «Пінская шляхта», «Паўлінка», «Чорт і баба» былі самымі любімымі пастаноўкамі, на якія прыходзілі не толькі вяскоўцы, але і жыхары навакольных вёсак Карашава, Бандары, Вострава. Вечарамі збіраліся разам з моладдзю. Прыходзілі на гэтыя вечарынкі і Міхась Васілёк са сваімі сёстрамі Глафірай і Надзеяй. Макар Краўцоў іграў на скрыпцы, якую зрабіў ягоны пляменнік Платон. (Тая скрыпка і сёння захоўваецца ў мяне, як дарагая сямейная рэліквія). Спявалі беларускія песні, у тым ліку і «Ваяцкі гімн». Макар Краўцоў і Міхась Васілёк чыталі аднавяскоўцам свае вершы.

Толькі тут у Баброўні сярод сваякоў, аднадумцаў адпачываў душою паэт. Можа, таму і прыязджаў ён сюды кожнае лета нават па некалькі разоў. Жыццё ў Вільні не было такім бясхмарным. Матэрыяльнае становішча было цяжкім, жылі яны з Ганнай Станіславаўнай вельмі бедна, дзяцей у іх не было. Значную дапамогу атрымліваў Макар ад майго бацькі ці свайго пляменніка Платона, што меў залатыя рукі, сталярнічаў, добра зарабляў і быў яшчэ нежанаты.

У мяне захаваўся ліст Макара Краўцова да майго бацькі ад 16 красавіка 1937 года, у якім ён піша: «Атрымаў я цікавае пісьмо ад Баніка. Паміж іншым, што ты прасіў паведаміць, колькі я атрымаў ад цябе грошай. Маю гэткія адрэзкі: 9.XII - 100, 16.XII.1936 - 80, 30.I.1937 - 25, 9.III - 100 і апошнія 30.III - 100; разам 405 злотых. Ці маеш ты паштовыя квіты і ці сходзіцца?»

У другім лісце ад 12 сакавіка 1937 года ён піша: «Дарагі Платон! Вялікі табе дзякуй за прысланыя 9 лютага 100 злотых. Шкада толькі, што ты ня любіш падробней пісаць, як там выглядаюць справы... На жаль, я, хоць і прафесійны пісьменнік, нічога цяпер не пішу. Няма куды. Душная атмасфера ды й годзе. Прыйдзецца мусі пераключыцца на іншыя мовы ды шрайбаваць артыкулы ў расейскія альбо ў польскія штодзённікі. На хлеб, на воду мусіць чалавек зарабляць. А тут яшчэ хваробы чапляюцца. Жонка хварэе і сам прастуханы. Ужо больш як тыдзень губы парэпаны, ламае нейкая ліхаманка, прымаю хіну. П'ю маліну. А ў хаце ня ўседзіш, бяда выганяе, як таго ваўка, на здабыванне хлеба. З канца месяца сакавіка прадбачыцца работа... А тым часам мушу ізноў да цябе звярнуцца. Было б вельмі добра, каб выслаў ты мне яшчэ якіх хоць залатовак 50. Калі там для мяне нічога ня маеш, дык можа скамбінуй як і пазыч. Адашлю з падзякай, як толькі зараблю. Гэта - у найгоршым выпадку. Калі ж там нешта для мяне яшчэ магчыма выдрапаць, дык націсні, дзе можна. Бяды і патрэбы у мяне да зарэзу».

Не да спадобы прыйшоўся бунтарскі дух Макара Краўцова польскім уладам. Пасля прыходу да ўлады Пілсудскага, у Вільні Макара Краўцова арыштоўваюць. Гэты арышт не быў апошнім. Восенню 1939 года ў дом Краўцовых прыйшлі энкавэдзісты. Перавярнулі ўсе кніжкі і рукапісы, а самога гаспадара арыштавалі.

Пачалося ганенне і на жонку паэта, яе выгналі з уласнай кватэры. Дзякуй Богу, знайшліся добрыя людзі і далі ёй прытулак. У 1952 ці ў 1953 годзе яна прыязджала да нас у Баброўню і некалькі дзён гасцявала ў майго бацькі. Я добра памятаю яе, гэтую кволую, невысокую жанчыну, якая дзяліла з Макарам Краўцовым усе цяжкасці жыцця і нястачы, падтрымлівала яго і была першым чытачом ягоных твораў. Пахавана Ганна Станіславаўна ў Вільні. На вялікі жаль, ніякіх звестак пра далейшы лёс Макара Краўцова няма.

Дзесьці ў 1954 годзе, ужо пасля смерці Сталіна, у Баброўню завітаў незнаёмы чалавек, які па сакрэту расказаў майму бацьку, што Макара Краўцова забілі на допытах у турме ў Беластоку. Ні пацвердзіць, ні абвергнуць гэтую звестку на сённяшні дзень ніхто не можа.

Друкаваўся ён разрознена, ніколі ягоныя творы не былі сабраныя разам, а рукапісы пасля арышту загінулі. Вялікую працу ў пошуку матэрыялаў пра жыццё і творчасць Макара Краўцова здзейсніў Апанас Пятровіч Цыхун, які 5 траўня бягучага года адзначыў сваё 90-годдзе.

Але засталося шмат момантаў і падзеяў з жыцця паэта, якія на сённяшні дзень невядомыя. Сумна і тое, што Макар Краўцоў так і застаўся не рэабілітаваны.

У 1992 годзе ў Вярхоўным Савеце паўстала пытанне наконт дзяржаўнай сімволікі Рэспублікі Беларусь. Быў абвешчаны конкурс на тэкст дзяржаўнага гімна. Тады гімны «Магутны Божа» і «Ваяцкі гімн» выйшлі пераможцамі ў першым туры конкурсу і былі вынесены на шырокае народнае абмеркаванне. Юрка Голуб і Апанас Цыхун прыехалі на радзіму Макара Краўцова ў Баброўню і знялі невялічкі фільм пра жыццё і творчасць паэта. Але другі тур конкурсу наогул не адбыўся...

З вялікімі намаганнямі мне і маім сваякам удаецца адшукаць сёння асобныя творы, якія друкаваліся пры жыцці паэта, успаміны ягоных сучаснікаў ці фотаздымкі, лісты перапіскі. Але я не губляю надзеі, што літаратурная спадчына Макара Краўцова калісьці будзе вернута шырокаму колу чытачоў.

**Міхась Касцевіч**



**Ліпень. 1992 год. Вёска Баброўня. Апанас Цыхун іграе на скрыпцы, на якой у свой час іграў Макар Краўцоў. Сядзяць Юрка Голуб і мой бацька - Платон Касцевіч, пляменнік аўтара «Ваяцкага гімна». Здымак зроблены падчас працы над фільмам пра Макара Краўцова**

## Гімн

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор.

Хай аджыве закамянелы
Наш беларускі вольны дух,
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.

На бой за шчасце і за волю
Народа слаўнага свайго.
Браты, цярпелі мы даволі.
На бой усе да аднаго.

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасця мы падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ мацней,
Ў крывавых муках мы народзім
Жыццё Бацькоўшчыны сваёй.

## Паварот да Горадна

Ізноў я тут. Цябе вітаю,
Мой родны Горадзен стары!
Ізноў па вуліцах лятаю
Да самай позняе пары.

З цябе нацешыцца няможна
Пасля разлукі ў тры гады!
Як міла плітачка тут кожна,
Дамы, бульварчыкі, сады.

Хрыбты мастоў пераламаных.
Ахвяры скончанай вайны,
Шкада мне вас, параскіданых,
Ўдалыя Нёманавы сыны!

І ты - Нямога Пасяджэння
Магутны Замак - як жывеш?
Праб'е часіна адраджэння -
Ізноў ты, мілы, загудзеш!

А ты...ты - Нёман бела-сіні...
Ой, як харошы, дарагі!
Старыя хвоі, як багіні,
Твае бароняць берагі.

На грудзях хваляў летнім часам
Адпачываў я тут не раз
І часта быў з табой сам-насам,
Аж покуль догі дзень не згас.

Цяпер нядоляй пілігрыма
Сюды загнаны незнарок,
Твой быстры бег лаўлю вачыма,
Гляджу і ўдоўж і ўпапярок.

На тым баку я бачу зоркі -
Ў зацішнай, беднай нізіне:
Ўляпілі цёмныя прыгоркі
Раём фарштадскія агні...

Вітай жа, Горадзен, дзяцінy
Тваіх муроў, твае раллі,
Хоць ты прытулішчам будзь сыну -
Выгнанцу роднае зямлі!

## Раманс

Ціха спаў стары лес недалёчка,
На балоце кулік чыркацеў,
Тэй вясны была цёмная ночка,
Што не вернецца зноў, каб хацеў.

Хутка недзе схавалася вёска,
Ўсё гусцела й гусцела імгла;
Твая мілая, доўгая коска
Чорнай стужкай на плечы лягла.

Яшчэ зоркамі вочкі свяцілі.
Шчасце-моладасць грэла душу...
Тыя думкі, што нас засмуцілі,
Я дагэтуль, як шчасце, нашу:

«Нас нядоля ліхая злучыла,
І ў наплыве сляпога чуцця
Ўсю атруту пазнаць навучыла»...
Дый заплакала ты, як дзіця.

Ў беднаце мы абое стагналі,
Як ад нейкай хваробы-чумы,
Ніякога ратунку не зналі,
Век галодныя, бедныя мы!

Было жудасна нам сярод ночы,
Лёд нядолі застыў каля нас.
Ты, як ангел, мне глянула ў вочы
І пачула: «Расстацца нам час»...

# Час збіраць камяні

**Месцам правядзення міжнароднай канферэнцыі навукоўцы гэтым разам абралі не Менск, і нават не абласны цэнтр, а маленькі гарадок Слонім. Яны пасяліліся ва ўмоўна-камфортным гатэлі (іншага тут папросту няма) і некалькі дзён прысвяцілі навуковым дбанням. Пры гэтым без звону і пампезнасці заклалі пачатак вырашэння глабальных праблемаў нашай з вамі агульнай культуры, а значыць, і нашай будучыні.**

Канферэнцыя складалася з дзвюх частак. Назва першай (якраз той, што праходзіла ў Слоніме) - «Магнаты Вялікага княства Літоўскага як мецэнаты культуры», а другой (для яе правядзення ўдзельнікі пераехалі ў Гродна) - «Садова-паркавае мастацтва Гарадзеншчыны: прырода і людзі, мінулае і сучаснасць». Канцэпцыю першай часткі рыхтаваў кандыдат мастацтвазнаўства Аляксей Хадыка (Інстытут праблемаў культуры МК РБ, Менск), а другой - кандыдат гістарычных навук Святлана Куль-Сяльверстава з Гродна. Грэх было не аб'яднаць гэтыя дзве тэмы, што дапаўняюць адна адну. Канферэнцыя атрымалася вельмі прадстаўнічай: у ёй узялі ўдзел дэлегацыі з Польшчы, Літвы, Украіны, маскоўскія навукоўцы і, зразумела, беларускія. Сярод вучоных - дактары, кандыдаты, магістры і аспіранты - гісторыкі, мастацтвазнаўцы, філолагі і філосафы.

### Мецэнаты

Сучасная навука значна пашырыла рамкі гэтага паняцця. Мецэнатамі, як сцвярджаюць навукоўцы, трэба лічыць і магнатаў, якія ўкладалі ўласныя сродкі ва ўсё тое, што складае зараз наш культурны здабытак - творы архітэктурнага мастацтва (палацы, сядзібы, саборы, манастыры), творы жывапісу, скульптуры, садова-паркавыя ансамблі і г.д. Так, у першую чаргу яны рабілі гэта для сябе і сваіх нашчадкаў. «Але, папершае, разам з імі жылі іх слугі, - нагадаў Аляксей Хадыка, - якія таксама ў пэўнай ступені карысталіся гэтымі творамі мастацтва. Створаны магнатамі культурны асяродак распаўсюджваўся за межы палацаў і сядзібаў, - зазначыў навуковец, - напрыклад, пад Нясвіжам (радавы маёнтак Радзівілаў. - заўвага рэд.) дагэтуль у сялянаў прынята перад хатай высаджваць кветкі, чаго не сустрэнеш у іншых мясцінах». Таму імёны прадстаўнікоў магнатаў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай нельга адасабляць ад імёнаў аўтараў твораў мастацтва. Яны маюць роўнае з мастакамі права называцца стваральнікамі культурнага асяроддзя ў нашым краі.

У першую чаргу, гэта прадстаўнікі двух вялікіх родаў: Сапегі і Радзівілы. Ім на канферэнцыі была нададзена найбольшая ўвага навукоўцаў, хаця ўзгадваліся і іншыя імёны: Максімовічаў-Ламскіх, Альберта Гальштадта, Лапацінскіх і, канешне, Агінскіх.

### Ціхі горад Слонім

Гэты невялікі раённы цэнтр быў абраны для канферэнцыі па мецэнацтву, вядома ж, невыпадкова. Менавіта тут была сядзіба роду Агінскіх: велізарны палац на 140 пакояў (што ў тры разы больш за вядомы палац Радзівілаў у Нясвіжы) з паркам. Ад палаца абсалютна нічога не засталося, але ёсць парк, хаця і ў далёкім ад першапачатковага выгляду стане, і канал, які носіць імя яго фундатара Міхала Казіміра Агінскага. Гэтая штучная водная артэрыя лучыць Нёман з Дняпром, г.зн. па сутнасці, Балтыйскае мора з Чорным. Гэты канал пачынаецца ў Слоніме ад Шчары і ўпадае ў рэчку Ясельду, прыток Прыпяці, якая, у сваю чаргу, з'яўляецца прытокам Дняпра. Працягласць канала - 54 кіламетры, працавалі 10 шлюзаў. Будаваўся ён з 1765 года з перапынкамі да 1804 года. Жыхары Слоніма памятаюць, як яшчэ ў 60-я гады сплаўлялі па ім лес. Але цікавы не толькі практычны, хаця і бясспрэчна важны, сэнс гэтага збудавання, але і эстэтычны. Яго, відаць, адмыслова праклалі недалёка ад палаца і парка, каб выкарыстоўваць у тэатральных прадстаўленнях, калі на воднай роўнядзі разыгрываліся батальныя сцэны. Ці шмат сучасных слонімцаў, а тым больш не жыхароў горада Слоніма, ведаюць пра гэта? І яшчэ пра многае іншае, з чым звязаныя імёны Агінскіх, Сапег, Радзівілаў?

Сучасны Слонім змагаецца з тымі ж праблемамі, што і ўся Беларусь. Асноўныя працадаўцы - дзяржпрадпрыемствы - ледзьве дыхаюць: мэблевая фабрыка не працуе ўжо трэці месяц - затарана склады - няма збыту; не лепшым чынам выглядаюць справы на камвольнай фабрыцы. Яшчэ неяк выкручваюцца прадпрымальнікі. Спрабуюць хоць нешта прадаць гандляры маленькага рынку. Ад голаду і авітамінозу мясцовых жыхароў выратоўваюць уласныя агароды. А што выратуе ад бездухоўнасці? Настаўнік гісторыі мясцовай школы, таксама ўдзельнік канферэнцыі, зазначыў, што толькі ў апошнія дзесяцігоддзе стала магчымым знаёміць вучняў з імёнамі магнатаў не як прыгнятальнікаў і эксплуататараў бедных пластоў насельніцтва, а як асноўных носьбітаў культуры нашага краю.

### Вярнуць забытае

Беларусь, як ніякая іншая зямля, пакутавала ад войнаў, набегаў з рабаўніцтвамі, падзелаў. Вядомае паўстанне 1831 года абумовіла рэпрэсіі з боку расейскага пасаду, а ў выніку вялізная колькасць маёнткаў была разрабавана. Адны творы мастацтва і культуры знішчаліся, другія - вывозіліся. У дакладзе гарадзенца Аляксандра Радзюка прагучала лічба 73 - столькі маёнткаў было канфіскавана з 1831 па 1835 гады. З іх было вывезена мноства карцінаў, скульптураў, каштоўных рэчаў, бібліятэкаў. Напрыклад, каштоўнасці з маёнтка Дзярэчын вывезены ў Эрмітаж, на аўкцыёнах цудоўныя карціны з манастырскіх калекцыяў ішлі па аднаму (!) рублю, шмат што вывозілася ў Варшаву, Літву. Наступныя войны ўнеслі дадатковую блытаніну ў «міграцыйныя» шляхі твораў мастацтва. Зразумела, знайсці, а тым больш вярнуць усё, што знікла за велізарны прамежак часу, немагчыма, але вярнуць імёны, даты і адрасы многаму з культурнай спадчыны трэба. Каб ганарыцца сваім мінулым і быць дастойнымі яго.

### Падзея першая

- У нас выспела ідэя, і на гэтай канферэнцыі мы правялі нешта накшталт устаноўчага сходу па арганізацыі фонду «Сумесная спадчына», - падзяліўся навіной Аляксей Хадыка, - гэта будзе недзяржаўны міжнародны фонд для садзейнічання правядзенню даследаванняў, арганізацыяў сумесных і абменных выставаў, правядзенню падобных гэтай канферэнцыяў. Дарэчы, мы мяркуем з рэгулярнасцю ў два гады праводзіць іх у Слоніме і такім чынам дапамагаць адначасна тут культурнае асяроддзе. Мы спадзяемся на дапамогу міжнародных арганізацыяў, нашчадкаў гэтых маёнткаў, якія жывуць за мяжою, і нашых грамадзянаў таксама.

Ідэю стварэння фонду падтрымаў прафесар Мальдзіс, які таксама прыехаў на сустрэчу навукоўцаў у Слонім. Ён сказаў, што неадноічы звяртаўся да прадстаўнікоў улады з прапановай дапамагчы ў наладжванні сувязяў з нашчадкамі беларускіх сядзібаў, якія маглі б аказаць рэальную дапамогу сваёй гістарычнай радзіме ў іх аднаўленні, але не ўбачыў сустрэчнага інтарэсу. Надзея на вучоных і грамадскасць.

### «...до основанья, а затем...»

Больш за ўсё культурнаму асяродку Беларусі дасталося ад бальшавікоў. Ідэалогія разбурэння, апора на люмпен з культурай узроўню «шарыкавых», адмаўленне маральнасці, бяздарная спроба замяніць яе Кодэксам будаўніка камунізму, непрыманне прыватнай уласнасці, а значыць сапраўднага паняцця «гаспадар» - усё гэта разам з дзвюма сусветнымі войнамі, якія «прапрасавалі» Беларусь уздоўж і ўпоперак, нанесла мацнейшы ўдар па культуры, якая канцэнтравалася ў храмах, манастырах, палацах і сядзібах.

Адпаведна даследаванням, якія праводзіць прафесар Федарук, у пачатку XIX стагоддзя ў Беларусі было недзе 1,8 тысячы сядзібаў, г.зн. прыкладна па тры сотні на вобласць. Хаця лічба гэтая даволі ўмоўная. Анатоль Трафімавіч, дзівосны чалавек, доктар біялагічных навук, які выкладае студэнтам экалогію, апошнія гады ўсе свае адпачынкі праводзіць у паездках па краіне, апісвае, адшуквае старыя сядзібы, робіць схемы некалі цудоўных садова-паркавых ансамбляў. Найбольшы інтарэс, на яго думку, уяўляе Гарадзеншчына. З прыкладна 300 маёнткаў тут, у той ці іншай ступені захавалася каля 180 - болей, чым у іншых абласцях. Недзе 70 з іх належыць аднавіць. Тыя, што нельга аднавіць, трэба захаваць, закансерваваць. Альтэрнатывы гэтаму няма. Даклад прафесара Федарука з пералічэннем сядзібаў, беглым іх апісаннем і паказам слайдаў, пакінуў у прысутных незабыўныя ўражанні. Гэта адбывалася ўжо ў Гродне падчас другой часткі канферэнцыі, арганізаванай Лабараторыяй праблемаў рэгіянальнай культуры ГрДзУ, якой кіруе Святлана Куль-Сяльверстава.

- Кожная нацыя павінна змагацца за захаванне свайго культурнага ландшафту, - лічыць прафесар Федарук, - а таго, што адбываецца ў нашай краіне, няма нідзе.

- Сядзіба Гайцюнішкі - 1612 год, позні Рэнесанс. Дом у неблагім стане, але разбурана капліца. Дом у Міхалішках - XVII стагоддзе. У жудасным стане. Мажэйкава. Сядзібу бяздушна крамсаюць на кавалкі: мясцовы спіртзавод адгарадзіў сабе адну з дзвюх сажалак садова-паркавага ансамбля. Але ж існуюць гістарычныя межы сядзібы. Іх нельга парушаць! Дзятлава. Палац стаіць самотна, адзінока. Ён цалкам страціў свой дэкор, а які цудоўны быў ідылічны куточак, які ствараў Караліна з роду Радзівілаў. Шчорсы. Гэта эпоха Асветніцтва на Беларусі, гэта Храптовіч, які пасылаў мясцовых хлапчукоў і дзяўчат вучыцца ў Заходнюю Еўропу. Сядзіба мела рысы класіцызму, была надзвычай прыгожая брама, карэ - замкнёны двор. Зараз тут забудова прыватнага сектару ў занядбаным стане. Флігель выратавалі прадпрымальнікі. Аднаўлены сажалкі. Некалі тут быў помнік Храптовічу. Але нават месца ніхто не можа паказаць. Масяляны. Можна парадавацца - аднаўлена капліца. А што зрабілі з палацам - абклалі сілікатнай цэглай, усё, палаца не стала. Мількаўшчына. Сядзіба калісьці патанала ў кветках - цяпер там калгасная ферма.

Сумны «Спіс Шындлера» на самой справе быў значна даўжэйшым: Шайкуны, Асташын, Свяцк, Гнезна... А вось добрых прыкладаў захавання і нават аднаўлення - раз-два і абліччыся: кансервацыя па тыпу сядзібы ў Дварышчы, адрэстаўраваная сядзіба ў Малама-жэйкаве ды цудоўны ўзор - аднаўленая сядзіба Міцкевічаў у Навагрудку, - якi нам пакінулі палякі.

### Румлёва

Месцам апошняга дня канферэнцыі невыпадкова была абрана гарадзенская школа-гімназія N30. Яна размешчана на тэрыторыі садова-паркавага ансамбля Румлёва. Так што пасля дакладаў удзельнікі канферэнцыі здзейснілі навукова-практычную прагулку па яго сцяжынках. Суправаджалі маладыя школьныя настаўнікі, якія разам з вучнямі гімназіі даглядаюць за паркам і вывучаюць яго. Безумоўна, патрэбная справа, але гэтага мала. Пра месца былога размяшчэння палаца можна толькі здагадвацца па дзвюх старых, даваенных пасадкі, туях (на гэтым месцы зараз горда красуецца навюткі бак на бетоннай падставцы для смецця) ды кляновай алее, дрэвам якой, як вызначыў прафесар Федарук, не менш за 180 гадоў. Але цяпер - гэта, хутчэй дзікі лес, чым культурны парк. Каб надаць яму прыстойны выгляд, мала махаць граблямі і мётламі. Тут патрэбна брыгада лесарубаў з адпаведнай тэхнікай. Спілаваць шматлікія тополі, расчысціць ад лішняга падросту паляны, дзенідзе падсеяць траву, паставіць лаўкі, вызначыць сцежкі. У эстэтычна акультураным парку не так карціць незаўважна кінуць паперу, пакет ці бутэльку, чым у зарослым і змрочным.

Анатоль Трафімавіч Федарук вельмі засмучаўся, што на канферэнцыі не было прадстаўнікоў дзяржаўных прыродаахоўных структураў з раёнаў, якім варта было паслухаць нерадасную інфармацыю пра стан садова-паркавых комплексаў на падведамаснай ім тэрыторыі. Затое старшыня гарадзенскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Вольга Адорская была так прасякнута агульным настроем аднаўлення культурных ландшафтаў, што проста падчас прагулкі загаварыла з прафесарам Федаруком пра тое, як рэальна з ягонай дапамогаю распачаць расчыстку Румлёўскага парку. Няўжо атрымаецца?

### Падзея другая

На самой справе яна адбылася адначасова з першай яшчэ ў Слоніме. Святлана Куль-Сяльверстава ініцыявала стварэнне яшчэ аднаго фонду, які будзе называцца «Беларуская сядзіба». Мэты і задачы зразумелыя з ягонай назвы: намаганнямі навукоўцаў, грамадскасці, маладога пакалення аднавіць культурна-ландшафтны асяродак Беларусі. «Мы пачнем з рэгістрацыі абласнога фонду, - сказала Святлана Яўгенаўна, - але ў перспектыве ён таксама будзе міжнародным, для гэтага ёсць згода і літоўскіх, і польскіх калег. Мяркую, што далучацца і ўкраінцы».

Аднаўляць сядзібы - гэта, канешне, не выставы і канферэнцыі арганізоўваць. Сродкаў на гэта трэба куды болей. Але, паводле словаў Святланы Яўгенаўны Сяльверставай, ужо распрацаваны схемы ўзаемадзеяння з турыстычным бізнесам. Напэўна, на практыцы паўстане праблема гаспадара сядзібы. Хто і якім чынам павінен быць зацікаўлены ў яе захаванні? Арандатар? Уласнік? Калі першы, то на які даход ён можа разлічваць, каб аплочваць арэнду, а калі другі... Адным словам, гэта тэма для асобнай размовы і наступнага этапу дзеяння.

**Ніна Палуцкая**
**Гродна-Слонім-Гродна**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




### ПРАДАЮ

Масквіч-412 па запчастках, б/у; шкло лабавое і задняе; дзверцы ў зборы, задні мост, салон, кузаў, рулявая калонка ды інш. Тэл. 76-53-11.

Лічыльнікі гарачай і халоднай вады (вытв. Уладзімірскага завода «Точмаш») у камплекце з фільтрамі і вентылямі. Тэл. 72-29-38 (пасля 17.00).

Пральную машыну-аўтамат (вытв.Германіі), б/у. Танна. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Дробную бульбу. Тэл. 44-69-03.

TV-антэны, карнізы вытворчасці Польшчы, гімнастычную (шведскую) лесвіцу. Танна. Магчыма дастаўка. Тэл. 6-99-43 (пасля 15.00).

Дачу ў в.Жылічы, побач - бярозавы гай, рэчка Нёман. Тэл. 44-39-53.

Складны ровар; два ложкі ад спальнага гарнітура, б/у; дыпламат; папку для паперы; жалюзі з трыснягу. Тэл. 39-00-49.

Халадзільнік «Снайге-15Е», б/у, а таксама шыны і лабавое шкло ад «Масквіча-2140». Тэл. 44-39-70.

Шафу паліраваную, трохстворкавую; пісьмовы стол. Усё б/у. Тэл. 2-77-54.

Фаеркі і пераключальнікі да электраплітаў. Тэл. 2-94-94.

Новую электрадрэль. Тэл. 33-13-77.

Тэлефон, друкарскую машынку, музычны цэнтр «Рамантыка-201-стэрео», падстаўку пад акварыум і тэрмарэгулятар да яго, калонкі - 10АС. Тэл. 47-00-16.

Металічную цяпліцу. Тэл. 75-33-55.

Вагі магазінныя ў добрым стане (з гірамі), часопісны стол (б/у). Тэл. 31-95-21.

### КУПЛЮ

Настольную лампу, новую альбо б/у, абавязкова - у працоўным стане, невысокую, з выключальнікам, зручную ў карыстанні. Тэл. 6-69-65 (пасля 17.00).

Металічны абруч для заняткаў гімнастыкай, не абавязкова новы. Танна. Тэл. 72-37-14 (працоўны, з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану).

Факсімільнае выданьне Статуту ВКЛ 1588 году, граматыку Б.Тарашкевіча, кнігу «Летапісы і хронікі» зь серыі «Беларускі кнігазбор». Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Лінолеум (9 кв.м), дачу альбо дачны ўчастак. Тэл. 6-46-32.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Імпартны лёгкі фоташтатыў. Тэл. 33-59-87.

Два-тры лісты хвалістага шыферу і шклапластыка. Тэл. 75-46-23 (пасля 18.00).

### ЗДАЮ

Дзвюхпакаёвую кватэру з мэбляй і тэлефонам. Перадаплата. Тэл. 2-85-26.

### МЯНЯЮ

Трактар на аўтамабіль альбо прадаю. Звяртацца на адрас: г.Гродна, завулак Даватара, д.8а, кв.14.

### ПАСЛУГІ

Рэпэтытарства, кантрольныя і курсавыя работы па беларускай мове і літаратуры. Тэл. 6-67-55.

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтарах. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

**Неўрапатолаг першай катэгорыі Я.І.Кухта**

Лячэнне захворванняў астэахандрозу пазваночніка (радыкулітаў, пляксітаў, перыартрозаў ды іншых). Звяртацца на адрас: вул.Багуцкага, 2а (інтэрнат КБМ), канцавы прыпынак аўтобусаў N8, N15. Магчыма лячэнне на выкліку на дом. Тэл. 39-96-76 (да 9.00 і пасля 20.00); 39-00-01 (у любы зручны час). Ліц. N581 МАЗ ад 25.03.1998 да 2003 года.

Рэпэтытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Кантрольныя і курсавыя работы (энергазабеспячэнне, энергазберажэнне). Тэл. 5-92-07 (пасля 18.30, запрасіць Васіля).

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Балгарская, беларуская мовы: пераклады, індывідуальнае навучанне. Тэл. 2-85-77.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

**Доктар С.Каляда**

Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Камп'ютарны набор, скажіраванне, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).



### РОЗНАЕ

Просьба да тых, хто знайшоў дакументы на імя Пятра Міхайлавіча Бейма, патэлефанаваць на нумар 31-26-26.

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі. Тэл. 44-39-15.

Ахвотныя атрымаць новую кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленку на адрас: 220131, г.Менск, п/с 268. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу М.Ермаловіча заўжды можна набыць у сядзібе ТБМ, што на вуліцы Румянцава,13.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Выстава аўдыё-відэакнігапрадукцыі працуе па новым адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх. Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін.

Шукаю працу на прадпрыемстве па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі накont знаёмстваў належаць менавіта вам, шаноўныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

### ЗНАЁМСТВЫ

Надзвычай энергічны, далікатны, імпазантны мужчына бальзакаўскага ўзросту, рост якога 176 см, жадае пазнаёміцца з прыемнай ва ўсіх адносінах жанчынай да 40 гадоў. Хатні адрас: 230026, г.Гродна-26, вуліца Томіна, 16-706б (Віктар Дзмітрыевіч); пажадана захапіць з сабою пашпарт.

З мэтай стварэння сям'і жадаю пазнаёміцца з мужчынам 28-40 гадоў, якому абрыдла адзінота. Лісты чакаю на адрас: 230024, г.Гродна-24, а/с 27.

Для стварэння сям'і жадаю знайсці прыстойную жанчыну, якая мае жылплошчу. Пра сябе: узрост - 33 гады, рост - 165 см; жанаты не быў, па нацыянальнасці - беларус, па гараскопу - Скарпіён. Чакаю лісты на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/п IV-ДР N706368.

### ВІНШАВАННІ

Шчыра віншуем каханую *Марыну* з 25-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, удачы і назаўсёды заставацца сапраўднай беларускай - свядомай, моцнай, непераможнай!

**Руслан і Раман**

Віншуем *Андрэя Ерашкевіча* з Днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, сапраўднага кахання, поспехаў у працы і не толькі! Няхай усе твае мроі, Андрэй, абавязкова спраўдзяцца!

**Сваякі, сям'я Лабко**







## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Авальная зала. Выстава - «Медны посуд XVIII - пачатак XX стагоддзяў». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Сумесная выстава мастакоў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава мастакоў-удзельнікаў III Усебеларускага фестываля нацыянальных культураў «Фэст-2000».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава батыку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Дзейнічае выстава, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 25 чэрвеня - «Прыгоды Пінокіо». Пачатак спектакля ў 12.00. Закрыццё сезона.

**Лядовы палац спорту.** 27 чэрвеня адбудзецца канцэрт гурта «Hi-Fi». Пачатак у 20.00.

**Цэнтральны парк.** 25 чэрвеня - канцэртная праграма «Містар бізнесмэн», прысвечаная Дню моладзі.

**Драмтэатр.** З 26 чэрвеня па 10 ліпеня - гастролі Гомельскага абласнога драматычнага тэатра ў горадзе Гродна. 26, 27, 28 чэрвеня - «Жульен і Каломба». Пачатак у 19.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Кінатэатр імя Пушкіна** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю).

**Кінатэатр «Усход»** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю). Штодня працуе пракат відэакасетаў, більярд, камп'ютарныя гульні.

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыптыз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

22 Імя і прозвішча ____________________

____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

____________________

____________________

____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11





ПЯРЭСТЫ КУТ

# Гэтая захапляльная гульня ў моду

**Моднае адзенне прадпрыемства «Сілуэт» заўсёды папулярнае ў гарадзенцаў. Акрамя таго, калекцыі ад «Сілуэта» рэгулярна становяцца пераможцамі фэсту моды «Супервобраз» і ўпрыгожаннем іншых конкурсаў і святаў індустрыі моды. Немалая доля заслуг у гэтым належыць дырэктарцы прадпрыемства, мадэльеру-дызайнеру адзення Вользе Пяньковай. Да слова, спадарыня Вольга - выдатны мастак адзення. Яна - аўтар пяці конкурсных калекцыяў: «Сад», «Лён», «Лінія», «Інтрыга», «Кар'ера - коткі». Творчы прынцып дызайнера - камфорт, прыгажосць, шматфункцыянальнасць.**

*- Вольга Анатольеўна, Вы вялі свята моды, што праходзіла ў рамках III Рэспубліканскага фестываля нацыянальных культураў. Што, на Вашу думку, было на паказе самым цікавым?*

- Была паказана цудоўная мадэль выпускніцы нашага універсітэта Л.Пярвушынай пад назвай «Дрэва жыцця». Гэта шматслойная сукенка, выкананая ў тэхніцы батыка - роспісу па шоўку. Сама ідэя мадэлі глыбока нацыянальная: дрэва жыцця - наш беларускі сімвал.

Акрамя гэтага падарунка фэсту, прадэманстравалі калекцыі шэсць вядучых прадпрыемстваў горада: «Вясёлка», «Элод», «Дынамапрограм», «Ювіта», «Фанг» і «Сілуэт». Асартымент быў вельмі розны: трыкатаж, якаснае спартыўнае адзенне, дзелавыя ансамблі, вячэровыя строі ды іншае.

*- «Сілуэт» нейкім чынам імкнецца ўплываць на гарадзенскую моду, а можа, і ствараць яе?*

- Мы вельмі хацелі б, каб наш горад меў свае асаблівыя рысы не толькі ў архітэктуры, у прыгажосці жаночых абліччаў, але і ў адзенні. Кола нашых кліентаў і пакупнікоў - жанчыны і мужчыны 20-50 гадоў, людзі, якія жадаюць выглядаць элегантна пры невялікіх выдатках. У гэтым сезоне мы развіваем тэму «Камплектуй разам з намі», ствараем серыю мадэляў з адной тканіны. Напрыклад, з ільнападобнай тканіны - цэлы камплект на розныя выпадкі жыцця - шорты, спадніцы рознай даўжыні, штаны класічныя і модныя на шнурочку, маленькая сукенка, блуза-топ, жакеты, сукня-паліто ды іншае. Кожны можа скласці той камплект, які яму патрэбны.

*- Якой Вы бачыце моду на лета?*

- Летняя мода дае яркія колеры - апельсін, неонавы жоўты, зялёны. Гэта тычыцца часцей сінтэтычных тканінаў. Натуральныя ж афармляюцца традыцыйна - колер зямлі, асфальту, летняй лістоты.

У наша адзенне ўваходзіць так званая «настальгія па дзявоцтву». Атрыбуты такога стылю - розныя валаны, рушы, тасьма, вышыўка, рукаўчык-званочак. Аднак гэтая тэндэнцыя ў модзе - не адзіная. Мы імкнемся задаволіць інтарэсы гараджаніна, блізкага да дзелавога цэнтру горада, офіса.

*- Вы лічыце, строгі дзелавы касцюм жанчыны выключае эратызм?*

- Не, наадварот. Нават у дзелавым касцюме жанчына застаецца жанчынай. Раней мода эпаціравала, падкрэслівала прыгажосць фігуры празрыстым адзеннем. Сёння развіваюцца маральныя суадносіны эстэтыкі і этыкі ў модзе. Жанчына нават на працы павінна даваць зразумець: так, я цяпер працую, але... Элемент прыгожай эротыкі павінен быць, гэта - высокая шліца, дэкальтэ, шыфонавая шматслойнасць, біжутэрыя. Дэкальтэ павінна інтрыгаваць, але ні ў якім разе не трэба «выкладваць грудзі на талерку». Натуралізм - гэта, хутчэй, галіна навукі.

*- Чым цікавы для Вас удзел у рознага кшталту конкурсах, такіх, як «Супервобраз-2000»?*

- Конкурсы - гэта крылы, але яшчэ не значыць, што яны ўзнімуць у палёт. Гэта творчасць супрацоўнікаў нашай фірмы.

Мы заўсёды былі краінай спецыфічнай: умелі лётаць у космас, а быт і камфорт паўсядзённага жыцця пакідалі недзе на апошнім месцы. Цяпер ідзе пераарыентацыя - людзі зразумелі каштоўнасць кожнага дня, радасць камфорту ў сваім жыцці. Аднак хоць мы і ўвайшлі ў лік лепшых мадэльераў краіны на «Супервобразе-2000» - ніякіх канкрэтных прапановаў на супрацоўніцтва мы не атрымалі. Там было шмат вытворцаў і ніводнага зацікаўленага інвестара...



Вольга Пянькова вядзе паказ моды на фэсце Нацыянальных культураў

*- Ці не здаецца Вам, што нашыя вытворцы ўступаюць рынак замежным - усе ездзяць за танным кітайскім адзеннем на «Паўднёвы», а не ў крамы «купляць беларускае»?*

- У замежнага вытворцы больш цікавыя крыніцы сыравіны. Той жа Кітай выкарыстоўвае высокатэхналагічную сыравіну, лёгкія эластычныя тканіны. Наша адзенне - прыгожае і добра зробленае, аднак наша хіба на сусветным рынку звязана з сітуацыяй у краіне і неабходна пераабсталяванне прадпрыемстваў, інвестыцыі, кваліфікаваныя спецыялісты.

*- Як бы Вы пракаментавалі вострамодную «блытаніну» ў модзе, калі мужчыны на подыумах апранаюць спадніцы, а жанчыны смела запазычваюць мужчынскія гальштукі, партманэ, фрызуры?*

- Мужчынскі элегантны касцюм выпрабаваны стагоддзямі. Гэта вельмі зручна для здзяйснення кар'еры. Цікаўнасць да мужчынскага касцюму была ў жанчын заўсёды. Калі грамадства пабудуе жанчыну да актыўнасці - яна будзе аднімаць у мужчыны ягоны касцюм.

Што да мужчынскіх спадніцаў, то і гэта не навіна. Яшчэ ў XVIII стагоддзі мужчыны пудрыліся, насілі стужкі ў парыках і наклейвалі мушак. Я думаю, што сёння ўсе мужчыны не апрануць спадніцы, але ў якасці гульні, пры жаданні адчуць сябе ў гэтым - чаму б і не? Гульня робіць жыццё не такім прагматычным. А гульня ў моду - самая захапляльная гульня ў свеце.

**Алена Сіневіч**



Гарадзенская мода ад «Сілуэта»

1. Ручная зброя для кідання стрэлаў. 2. Ганчарны выраб. 3. Горад у Берасцейскай вобласці, дзе пабудаваны касцёл і кляштар францысканцаў - помнік архітэктуры XVI-XVIII стагоддзяў. 4. Горад у Віцебскай вобласці, у якім збудаваны Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр (XII-XIX стагоддзі). 5. Пляскаты драўляны брусок з ручкай, якім перылі бялізну пры мыцці. 6. Галерэя, што звычайна афармляе галоўны ўваход у будынак і ўтвараецца калонамі ці слупамі. 7. Разное ўпрыгожанне вяршыні даху. 8. Каменная або цагляная кладка пад чым-небудзь. 9.Упрыгожанне, якое надзяваюць на палец.

**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N21(468):**

1. Баграціён. 2. Клімук. 3. Гусоўскі. 4. Хатынь. 5. Арлоўскі. 6. Скарына. 7. Шмыроў. 8. Лясная.



# Дзевяць прапісных ісцінаў

**Відаць, кожная жанчына мае свой сумны досвед зносінаў з мужчынамі. Сваркі і непаразуменне, канфлікты, рэўнасць і бяссілле нешта змяніць... Але ж для таго, каб між табою і мужчынам былі каханне, згода і паразуменне, трэба карыстацца самымі элементарнымі правіламі.**

**1. Не кахай яго занадта моцна.**

Нам здаецца, што наша каханне можа дапамагчы ўтрымаць каханага мужчыну, выратаваць любыя адносіны. Калі жанчына кахае, яна аддаецца гэтаму пачуццю цалкам і ў адказ чакае таго ж самага. Гэта памылка. Не кахай занадта моцна, бо ён пойдзе ад цябе туды, дзе яму давядзецца дамагацца гэтага кахання. Мужчына - гэта паляўнічы-ахвотнік, арыентаваны на дасягненне мэты, пераадоленне перашкодаў. Яго не цікавіць лёгкая здабыча, што сама ідзе ў рукі. Ён хутка губляе інтарэс да жанчыны, якая «залівае» яго сваім каханнем. Мужчына пачынае з ёю сумаваць, стамляецца і марыць пра другую, якая яшчэ загадка для яго і якой трэба дамагчыся.

**2. Не давай мужчыне расслабіцца.**

Калі не хочаш страціць свайго мужчыну - увесь час трымай яго ў напружанні. Ён не павінен быць упэўнены ў тым, што ты цалкам належыш яму. Мужчына заўжды павінен адчуваць лёгкае хваляванне, неспакой, інакш ягоны да цябе інтарэс знікне даволі хутка. Не назаляй яму сваёй нязменнай прысутнасцю. Знайдзі цікавы занятак, сустракайся з сяброўкамі. Важна адно - твой каханы павінен дакладна ведаць, што на ім свет клінам не сышоўся.

**3. Не лезь у душу.**

Кожны мужчына заўсёды трымаецца за свой імідж мэтанакіраванага, вольнага і незалежнага чалавека. І любыя замахі на гэты імідж, любыя спробы прабіць гэтую браню эмацыйнай цвярдыні выклікаюць у яго паніку. Ён спрабуе знайсці тую камфортную дыстанцыю, якая дае яму пачуццё бяспекі ад нашых замахаў. Не перасякай усталяваных ім межаў. Не спяшайся. Мужчыны не ўмеюць так хутка адкрывацца. Калі ён пажадае даверыцца табе, то зробіць гэта сам - з часам.



**4. Не перашкаджай яму працаваць.**

Справы, кар'ера, праца для мужчыны - на першым месцы. Патрэба ў самасцвярджэнні, скіраванасць на дасягненне выніку падштурхоўваюць яго на пошук усё новых і новых мэтаў. Кожную жанчыну крыўдзяць адносіны з мужчынам, у якіх яна займае далёка не першае месца. Ён спазняецца на спатканне - у яго справы, ён не праводзіць з табою выхадныя - у яго праца. Кар'ера для яго важней, чым мажлівасць правесці разам адпачынак... Мы імкнемся прывязаць мужчыну да сябе, а ён увесь час імкнецца на волю. Супакойся. Ён такім створаны. Пашкадуй яго. Ён не можа быць проста шчаслівы, не можа проста кахаць - яму ўвесь час трэба чагосьці дамагацца, самасцвярджацца, некаму нешта даказваць. Замест таго, каб пакутаваць - знайдзі сабе цікавую справу, каб не адчуваць сябе кінутай і адзінокай.

**5. Будзь раскаванай у ложку.**

У сексе мужчына ў большай ступені шукае навізны, нечаканасці, вострых адчуванняў. Калі ён не знаходзіць іх з табою - знойдзе з другою. Забудзься на комплексы, забароны, сарамлівасць. Ты цудоўная менавіта такая, якая ёсць. Ты - падарунак для яго. Не параўноўвай сябе з іншымі жанчынамі. Падаруй яму сябе, як дорыць жанчына, якая ведае сабе цану.

**6. Не крытыкуй.**

Чым мужчына слабей, тым з большым шаленствам абараняе ён свой штучна створаны імідж моцнага мужчыны.

**7. Мужчына - дзіця. Выкарыстоўвай гэтую акалічнасць.**

У кожным з мужчынаў жыве дзіця, якое не нагулялася і не навесялілася. Ад яго ўсяго можна дамагчыся ласкай і пяшчотай.

**8. Дазволь яму быць такім, які ён ёсць.**

У кожнага чалавека ёсць свае добрыя якасці і недахопы, свае звычкі, дзівацтвы і прыхамаці. Будзь да яго спагадлівай. Не спрабуй яго выпраўляць і карэктаваць. Проста кахай яго.

**9. Ніколі не губляй пачуцця ўласнай годнасці.**

Памятай: ты - непаўторная асоба. Будзь такой, якая ты ёсць. Заставайся для каханага мужчыны мілай і жаданай!

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Крыху больш часу Вам давядзецца прысвяціць прафесійнай дзейнасці, у выніку чаго могуць ускладніцца адносіны са сваякамі.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Паспрабуйце загадзя вырашыць фінансавыя праблемы. У сям'і - тэндэнцыі да паляпшэння.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** У асабістых справах разлічвайце толькі на сябе, калі не хочаце расчаравацца.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Будзьце надзвычай пільным(-ай) у пятніцу. Непажадана злоўжываць спіртнымі напоямі.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Настрой Ваш значна палепшыцца, калі прыкладзеце намаганні і зробіце жыццё больш разнастайным, тым больш, што фінансы дазваляюць.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Зоркі варожаць Вам значныя змены ў асабістым жыцці, аднак, цяжка сказаць, наколькі Вы будзеце імі задаволены(-ая).

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Нягледзячы на тое, што Вы абцяжараны(-ая) партнёрскімі праблемамі, справы пойдуць надзвычай добра.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Вас чакае ўдалая паездка, а пакуль надайце болей увагі свайму здароўю і паляпшэнню адносінаў са знаёмымі.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Адыдуць на другі план усе праблемы дома і на працы. Нарэшце нармалізуецца фінансавае становішча.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Паспрабуйце звяртаць не так шмат увагі на жыццёвыя дробязі, не варта дарма нервавацца.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Шмат з запланаванага, на жаль, давядзецца адкласці - зоркі ўнясуць смуту ў Ваша жыццё, але будуць і прыемныя моманты.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** На гэтым тыдні Вам належыць крыху зменшыць прэтэнзіі да блізкіх і прааналізаваць свае нядаўнія дзеянні.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні.
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2 014 Наклад 7 110
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 21.06.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае паладзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк,
камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей